

АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

2 лютага 2000 года
Цана 60 рублёў

№ 5 (2667)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

## ДОТЫК ЖЫВОЙ ДУШЫ



**Цяпер у роднай старонцы на дварэ скавыш, сівер і золь. Але спакваля набірае моцы абуджэнне. Неўзабаве з-за цяжкіх свінцовых хмараў выблісне пяшчотнае веснавое сонейка. Хутка празубяцца клейкія маладыя лісцікі і абудзіцца прастора радасным спевам птушак, што вяртаюцца з далёкага *выраю* на любую Бацькаўшчыну. То пара, дзецюкі, сядлаць коней, якія ў нас спрадвеку ўвасабляюць сімвал вольнасці і незалежнасці, мужнасці і вандроўніцтва, руху і перамогі. Новае стагоддзе і двухтысячагоддзе ад нараджэння Збаўцы, Ісуса Хрыста, даюць шанец годна заявіць пра сябе.**

**На здымку, які зрабіў беларус з Канады Юрка РАПЭЦКІ, аўтар гэтых нататкаў Яўген ЛЕЦКА.**

*Працяг на стар. 6—7.*

## «ЕЎРАМЯЖА Ў БРЭСЦЕ»

Падрыхтоўчы праект "Еўрамяжа ў Брэсце", які будзе ажыццяўляцца ў рамках праграмы TACIS па трансгранічным супрацоўніцтве, прадстаўлены кіраўнікам шэрагу брэсцкіх прадпрыемстваў, мытнікам і пагранічнікам. Праект рэкамендавала група экспертаў Еўрапейскага Саюза на чале з дырэктарам каардынацыйнага бюро TACIS у Рэспубліцы Беларусь Леанідам Арловым.

Брэсцкі рэгіён адыграў важную ролю ў гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і можа стаць сувязным звяном паміж пашыраным Еўрапейскім Саюзам, Беларуссю, Расіяй і іншымі краінамі СНД. На першым этапе рэалізацыі праекта, які зойме тры месяцы, мяркуецца распрацаваць план стратэгічнага развіцця транспарту ў рэгіёне. Другі этап прадугледжвае распрацоўку патэнцыяльных інвестыцыйных праектаў.

Дзякуючы значнасці транзітных маршрутаў праз Брэст, ужо запланаваны вялікія аб'ёмы інвестыцый у будаўніцтва шасэйных дарог і чыгунак, пагранічнай інфраструктуры ў Польшчы і Беларусі. Акрамя таго, плануецца далейшае тэхнічнае садзейнічанне дааследаванню пагранічнага калідора і навучанню персаналу больш эфектыўнаму кіраванню.

Усе гэтыя ініцыятывы, як адзначаецца ў праекце, накіраваны на ўдасканаленне грузапатоку праз калідор і зніжэнне прастояў на пагранічных прапускных пунктах. Пасля ўступлення Польшчы ў ЕС брэсцкаму рэгіёну выпадае роля "еўрамяжы". А гэта, на думку экспертаў, паспрыяе эканамічнаму росту і павышэнню попыту на транспартныя і гандлёвыя паслугі. Больш таго, многія прадпрыемствы, размешчаныя на германа-польскай мяжы, пры спрыяльных эканамічных умовах будуць паступова мігрыраваць на беларуска-польскую мяжу. Па даных Леаніда Арлова, у Брэсцкай вобласці ўжо рэалізаваны шэсць праектаў праграмы TACIS, тры зараз ажыццяўляюцца, а два будуць увасоблены ў жыццё ў бліжэйшай будучыні. Праект "Еўрамяжа ў Брэсце" заслугоўвае асобай увагі.

## ЭКСПЕДЫЦЫЯ



**Экспедыцыя на Паўднёвы полюс завяршылася. У ёй прынялі ўдзел палярнікі з 18 краін. 21 студзеня ў аэрапорце "Мінск-2" прызямліўся самалёт з беларускімі і расійскімі ўдзельнікамі экспедыцыі "Насустрач XXI стагоддзю".**

**НА ЗДЫМКУ: пакарыцелі Паўднёвага полюса тэхнік Аляксандр БАРЫСЕВІЧ (Мінск) і радыст Юрый ЗАРУБА (Новасібірск).**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## ЛЕГЕНДА АЙЧЫННАГА СПОРТУ — Анатоль ЮЛІН




**Анатоль ЮЛІН і Яўген БУЛАНЧЫК у Германіі. 1951 год.**

### КАМУНА АТРЫМАЛАСЯ ВЫДАТНАЯ

Пасялілі тут жа, у інстытуце, у аўдыторыі. Там жылі і Цімафей Лунёў, чэмпіён СССР у бегу на 200 метраў з бар'ерамі, і Леанід Осіпаў, чэмпіён краіны сярод юнакоў па скачках у даўжыню, так што камуна атрымалася выдатная. Потым загадчык гаспадаркі выдзеліў добрую плітку на дзве канфоркі, на ёй яны па чарзе кашаварылі. Дарэчы, да гісторыі сяброўства гэтых трох спартсменаў мы яшчэ вернемся, а зараз пра тое, якім упершыню Юлін убачыў наш Мінск.

— Раніцай я выйшаў з інстытута і разгубіўся: будынак стаяў, як пуп, а навокал руіны. Такой разрухі яшчэ ніколі не бачыў і не ўяўляў, што горад можна так знішчыць. Тула ж такога не ведала. Быццам трапіў на іншую планету. Ніякага праспекта няма — толькі дарога для трамвая. Пайшлі з Цімафеем далей — Дом афіцэраў. А Ціма гаворыць: "Яшчэ адзін дом ацалеў". Ідзём далей, а гэта Дом урада, некрануты, як новенькі. Вось і ўбачыў ва ўсім Мінску тры дамы, фашысты іх проста не паспелі ўзарваць...

Затое людзі аказаліся такія ж, як у першую гадзіну майго з'яўлення: надзіва добрыя і гасцінныя. Вярталіся з "экскурсіі" праз Камароўскі рынак, купілі там антонавак — жоўтых, духмяных.

Вучэбная група мне спадабалася: педагога слухаюць уважліва, многія запісваюць. Стаў запісваць і я: усяго не запомніш. А тады стыпендыю давалі толькі тым, хто здаваў на "добра" і "выдатна". На трэцім курсе я ўжо быў выдатнікам, атрымліваў павышаную стыпендыю.

Але галоўным для Анатоля заставаліся ўсё ж трэніроўкі. Вось тут і змянілася многае: новы горад, новы трэнер, новыя методыкі. Папершае, ніякіх лыж узімку, хіба толькі прагулкі на іх. Барыс Лівенсон сабраў групу вельмі таленавітых хлопцаў, чалавек восем, і займаўся з імі ў маленькай спартыўнай зале 18х8 метраў, дзе яго падапечныя шмат працавалі над развіццём гібкасці, сілы, эластычнасці мышцаў. Усе вельмі стамляліся, і Юлін зрэдку не стрымліваўся: "Што гэта за трэніроўка? Замест таго каб бегаць, чым займаемся...". Але калі бліжэй да вясны бегавой працы дабавілася, а давалася яна лягчэй, чым раней, ён зразумеў: усё правільна.

Стадыёнаў у Мінску тады было толькі два — "Дынама" і "Харчавік" з глінянай бегавой дарожкаю. Вось там будучыя чэмпіёны і трэніраваліся. Праўда, на "Дынама" гэта можна было рабіць толькі пачынаючы з 1951 года, калі яго рыхтавалі да правядзення першынства СССР па лёгкай атлетыцы. Тады там упершыню і трыбунку невялікую пабудавалі на месцы цяперашняй цэнтральнай. Дарэчы, такія ўмовы нікога не засмучалі. Калі ў 1949 годзе ўсіх траіх жыхароў пакоя-аўдыторыі забралі на ваенныя зборы, то дамовіліся з кіраўніцтвам, што ў абедзенны перапынак яны могуць надзяваць спартыўную форму і трэніравацца. І амаль адразу адбыўся кур'ёз.

Праз два тыдні пасля пачатку збораў з Масквы прыйшла тэлеграма: "Лунёва і Юліна выклікаюць для ўдзелу ў Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Будапешце". Намеснік камандуючага ваеннай акругай (генерал-лейтэнант, між іншым) вырашыў паглядзець, што гэта за салдаты, якіх такімі тэлеграмамі выклікаюць. Прыехаў ва Уручча, а яны ў гэты час цішком пайшлі ў горад. Калі вярнуліся, іх ужо чакалі: маёр, які злавіў іх, назначыў па 15 сутак арышту і павёў у казарму. А насустрач — уся генеральская світа. І сам генерал аб`явіў, што заўтра хлопцы павінны выехаць у Маскву. А тыя адказваюць, што не могуць: ім па 15 сутак далі. Генерал сваім падначаленым растлумачыў, што і як. Калі ж хлопцы вярнуліся пасля паспяховага выступлення, камандуючы ім падзяку аб`явіў. Вось толькі служыць больш не давялося.

**Пачатак у № 4.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ЁН ПРОСТА ЖАДАЎ БЫЦЬ ПЕРШЫМ

ЭКАНОМІКА

# «СЛОНІММЭБЛЯ» ЗАВАЕЎВАЕ КІПР



Германская фірма "Рэйнгольдмюлер" — вядомы ў Беларусі заканадаўца мэблевай моды. "Прыехаў неяк ке нам прадстаўнік пан Шпенглер да нас у Беларусь — на той час у сталіцы краіны была разгорнута буйнамаштабная рэспубліканская выстава "Мэбля-2000", — успамінае дырэктар Слонімскай мэблевай фабрыкі Анатоль Селівончык, — пахадзіў-пахадзіў па залах, спыніўся каля нашых вырабаў і шчыра прызнаўся, што не чакаў убачыць мэблю, якая цалкам адпавядае еўрапейскаму ўзроўню". Пан Шпенглер быў не адзіным у сваіх ацэнках. "Ваша мэбля нас вельмі здзівіла і пакрыла", — заявіў кіраўнік дэлегацыі кіпрскіх бізнесменаў Грэгорыё Салон.

Госць з далёкага сонечнага вострава паведаміў слонімскаму дырэктару, што пасля наведвання выставы ўзнік намер стварыць у Мінску кіпрскі гандлёвы дом, каб з яго дапамогай рабіць закупкі беларускай мэблі.

Высветлілася, што на Кіпры прадаецца ў асноўным італьянская мэбля. "Але яна нам даўно ўжо "прыелася", — сказаў пан Салон. — Яна, на маю думку, не вельмі надзейная для чалавека ў сэнсе яго здароўя, бо ў ёй шмат сінтэтычных дэталей. Ваша ж, у тым ліку і слонімская, — з масіву драўніны ды і прывабная".

— Карацей, — працягвае свой расказ А. Селівончык, — заключылі кантракты на пастаўку нашай корпуснай мэблі, іншых вырабаў і з кіпрыётамі, і з немцамі. Па заказу апошніх выпускаем тумбы серыі "BERLIN".

Сёлетні год асаблівы для майстроў фабрыкі: 28-га студзеня іх прадпрыемству споўнілася 60 гадоў. А пачыналася яно з невялікай саматужнай арцелі "Чырвоны стаяляр", пад дахам якой сабралася 50 майстроўпрыватнікаў. Было гэта адразу пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Арцельшчыкі працавалі ўручную і выраблялі просценькую мэблю — табурэткі, сталы, недарагія шафы, якія ахвотна куплялі жыхары горада і навакольных вёсак.

Аб "Чырвоным стаяляры" сёння нішто не напамінае, хіба толькі стэнд з фотаздымкамі таго часу, прысвечаны 60-годдзю прадпрыемства. Цяпер гэта адкрытае акцыянернае таварыства "Слоніммэбля".

— Мы выпускаем каля 30 найменняў мэблі, прычым у большасці сваёй — недарагой, разлічанай на масавага пакупніка, — гаворыць А. Селівончык.

— Атрымліваецца, што такім чынам вы працягваеце традыцыі сваіх папярэднікаў з "Чырвонага стаяляра", — заўважаю я.

— Так яно і ёсць, — згодна ківае галавой дырэктар.

**Алесь КІЙ.**

НА ЗДЫМКАХ: дырэктар прадпрыемства Анатоль СЕЛІВОНЧЫК; лепшая брыгада станочнікаў: Леанід РАКЕВІЧ (злева), Іван СЯЛОДЧЫК і Аляксандр БУЛАЙ; спальны гарнітур.





Фота Віктара СТАВЕРА.

АНКЕТА-2000

*Старшыня Вінніцкага зямляцтва беларусаў Уладзімір ДЗЯМЕШКА адказвае на пытанні нашай анкеты, як заворыцца ў пісьме з Украіны, па дaручэнню членаў беларускай суполкі.*

**1. Якая падзея аказала найбольш моцны ўплыў на гісторыю Беларусі ў XX стагоддзі!**

— Падпісанне дагавора аб стварэнні саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Мы, што цяпер замежнай дыяспараў і нацыянальнай меншасцю сталі, жывём у цэнтры Украіны. А здалёк лепш відаць. Нам вядомая гісторыя старажытнай Беларусі, а некаторыя яшчэ памятаюць пра здзекі з беларусаў у час панскай Польшчы. Тым болей не забыліся пра дзеянні фашысцкіх захопнікаў. Мы з вялікай трывогай сочым за аднасінамі нашай Радзімы з Украінай. Нам цяжка: украінцы забыліся пра тое, што звязвала нашы народы на працягу стагоддзяў. Зразумела, нашы хваляванні, нашы думкі заўсёды з Радзімай, з Беларуссю.

**2. Што з гэтага стагоддзя вы ўзялі б у наступнае і што пакінулі б у мінулым!**

— Перш за ўсё, у наступным стагоддзі трэба ўмацоўваць імкненне да духоўнага яднання славянскіх народаў. Зрабіць фундаментам яднання ўзаемаразуменне, дапамогу, братнюю падтрымку. А ў мінулым трэба пакінуць тое, што перашкаджае нашаму яднанню.

**3. Што б вы хацелі паспець зрабіць у 2000-м — апошнім годзе XX стагоддзя?**

— Рабіць усё, каб пазбегнуць міжрэлігійных, міжнацыянальных сварак, каб людзі жылі ў міры, добразычлівасці.

МЕРКАВАННІ

### У БЕЛАРУСІ МОЖА БЫЦЬ СТВОРАНА НОВАЯ ЭКСПАРТНААРЫЕНТАВАНАЯ ГАЛІНА ПРАМЫСЛОВАСЦІ

У Беларусі на працягу бліжэйшага часу можа быць наладжана вытворчасць геліяэлектрычных установак. Такую выснову зрабілі спецыялісты Рэспубліканскага грамадскага каардынацыйнага савета па геліяэлектрычнасці, які створаны пры камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу.

Як паведаміў сакратар каардынацыйнага савета, акадэмік Беларускай інжынернай акадэміі Лявонцій Данілевіч, у рэспубліцы ёсць усе навуковыя, тэхнічныя і вытворчыя магчымасці для вытворчасці геліяэлектрычных установак. Рынак сонечных электрастанцый у свеце вельмі вялікі, і асваенне яго толькі пачынаецца, што гаворыць пра перспектыўнасць новай галіны. Пра рост папулярнасці геліяэлектрычнасці гаворыць і той факт, што, напрыклад, у ФРГ за апошнія пяць гадоў колькасць сонечных установак павялічылася ў 30 разоў і дасягнула да 7 тысяч, а ў ЗША да 2010 года плануецца забяспечыць гэтым відам энергіі мільён дамоў.

Па словах Л. Данілевіча, у Беларусі, на Гомельскім хімічным заводзе, атрыманы і першыя ўзоры галоўнага кампанента сонечных батарэй — крэмнія, які, дарэчы, можа вырабляцца з адходаў хімічнай вытворчасці. Сапраўды, па геліяэлектрычнасці на грамадскіх пачатках, без прыцягнення дзяржаўнага фінансавання, створана і дзяржаўная навукова-тэхнічная праграма "Белгеліяэлектрычнасць". Аўтары ідэі стварэння новай галіны маюць намер уключыць яе ў Дзяржаўную экспартную праграму, якая зараз фарміруецца ўрадам.

### БЕЛАРУСЬ НАЗВАНА СЯРОД 12 ДЗЯРЖАЎ, ЯКІЯ МАЮЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ВЫРАБІЦЬ БІЯЛАГІЧНУЮ ЗБРОЮ

Паводле інфармацыі амерыканскай газеты "Вашынгтон таймс", Беларусь названа сярод 12 краін, якія маюць тэхнічную магчымасць вырабіць біялагічную зброю. У спіс трапілі яшчэ тры краіны былога СССР — Расія, Украіна і Казахстан, а таксама Індыя, Ірак, Іран, Кітай, Лівія, Пакістан, Паўночная Карэя і Сірыя. Як піша газета, на думку амерыканскіх спецыялістаў, асноўная небяспека ў дачыненні да краін былога СССР, перш за ўсё Расіі, у тым, што некаторыя з былых удзельнікаў сакрэтных праграм, якія сёння засталіся без працы, могуць прапанаваць свае паслугі кожнаму, хто паабяцае вялікія грошы.

ЗДАРЭННІ

### АСУДЖАНЫ ГАНДЛЯР "ЖЫВЫМ ТАВАРАМ"

Да трох з паловай гадоў турэмнага зняволення прыгаварыў суд 40-гадовага віцьбляніна. Яго затрымалі ў Оршы, адкуль ён у мінулым годзе спрабаваў пераправіць у Маскву трох непаўнагетніх дзяўчат.

### ВАЎКІ СТАЛІ ЗДАБЫЧАЙ

Пяць ваўкоў забілі на днях віцебскія паляўнічыя. Аблава на шэрых драпежнікаў была арганізавана непадалёку ад вёскі Лямніца Суражскага лясгаса. Паляўнічыя спадзяюцца за кожнага забітага ваўка атрымаць па сем мінімальных зарплат.

### ПАЖАР НА "ПАЛІМІРЫ" ЛІКВІДАВАЛІ ЗА ПЯЦЬ ХВІЛІН

Усяго пяць хвілін спатрэбілася пажарным, каб ліквідаваць узгаранне бензіну ў адным з цэхаў "Палміра". Бензін выліўся ў час правядзення рамонтных прац. "Палімір" — асабліва пажаранебяспечны аб'ект, і любое ўзгаранне там расцэньваецца як надзвычайнае здарэнне.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# ЗДАРОЎЕ НАЦЫІ — КЛОПАТ НАВУКІ

**У грамадскім прэс-цэнтры "Дома прэсы" прайшла прэс-канферэнцыя "Міжнародны дзень навукі. Уклад беларускай навукі ў медыцыну. Праблемы і перспектывы".**

Медыцынская навука Беларусі прадстаўлена 14 навукова-даследчымі інстытутамі, 2 навукова-практычнымі цэнтрамі, 5 навучальнымі ўстановамі. Там працуюць 350 дактароў і 1,5 тысячы кандыдатаў медыцынскіх навук (усяго ў сферы навукі занята 1,5 тысячы дактароў і 10 тысяч кандыдатаў навук). Зараз становішча з кадрамі больш-менш стабілізавалася. Крытычным быў перыяд 1991—1996 гадоў. Тады спецыялісты пакідалі сферу навукі. Напрыклад, колькасць супрацоўнікаў НАН зменшылася з 17,4 тысячы да 10,7 тысячы. Сёння там працуе 4 тысячы чалавек.

У сферы медыцынскай навукі, па словах прадстаўніка Міністэрства аховы здароўя Мікалая Досты, удалося захаваць кадравы патэнцыял. Нават у самыя цяжкія гады медыкі-навукоўцы не пакідалі даследчай працы. Думаецца, гэта звязана не толькі з адданасцю сваёй справе, але і з узважанай кадравай палітыкай, магчымасцю дадаткова зарабляць, праводзячы платныя кансультацыі і прыёмы.

Ніхто не спрачаецца: немагчыма развіваць медыцыну, не рухаючы наперад навуку. А гэта патрабуе шмат сродкаў як на распрацоўку праектаў, так і на ўкараненне іх у вытворчасць. Дарэчы, апошняе абыходзіцца даражэй. Тым не менш, паколькі Беларусь не ў стане закупляць у неабходнай колькасці медыкаменты і абсталяванне за мяжой, трэба ўсур'ёз развіваць айчынную медыцынскую навуку і не шкадаваць грошай на інавацыйныя праекты. Аднак на сённяшні дзень сітуацыя, па словах дырэктара Навукова-даследчага інстытута эпідэміялогіі Леаніда Цітова, матэрыяльна-тэхнічная база беларускіх НДІ састарэла, аб'ёмы і тэмпы яе аднаўлення невысокія. Тым не менш 70 працэнтаў распрацовак НДІ эпідэміялогіі — канкрэтныя, вельмі актуальныя дыягнастычныя сістэмы, бо штогод 1,5 мільёна беларусаў пакутуе ад інфекцый рознай этыялогіі.

Наша беднасць, несур'ёзнае стаўленне да свайго здароўя — усеагульная бяда. Увявіце сабе: 17—19 працэнтаў беларусаў (каля 1,5 мільёна чалавек) — гіпертонікі, 13 працэнтаў (каля 900 тысяч чалавек) хварэюць на ішэмію сэрца. І толькі 10—15 працэнтаў хворых атрымліваюць сапраўды эфектыўнае лячэнне (гэтыя хворыя патрабуюць перыядычнага, часам штодзённага прыёму медыкаментаў). На жаль, у многіх беларусаў не хапае грошай, каб набыць неабходныя ім лекі.

Дырэктар НДІ кардыялогіі Мікалай Манак паведаміў, што ва ўсім свеце расце колькасць кардыялагічных хворых. 51 працэнт памерлых у 1998 годзе пакутавалі менавіта ад хваробы сэрца і крывяносных сасудаў. Калі казаць пра новыя распрацоўкі лекаў, на Беларусі створаны ўласны арыгінальны кардыялагічны прэпарат. Сумесна з Міністэрствам прамысловасці распрацавана і ўведзена ў дзеянне дзевяць апаратных комплексаў.

Штогод у краіне робяць 300 аперацый на сэрцы. Прычым лятальнасць — чатыры-пяць працэнтаў, што набліжаецца да замежных паказчыкаў. У бліжэйшы час у Мінску ўвядуць новы аперацыйны кардыялагічны модуль. Але, як сцвярджае Мікалай Манак, з'яўленне прынцыпова не паменшыць чаргу на аперацыі, якая складае пяць тысяч чалавек. М. Манак упэўнены: якасць працы беларускіх хірургаў-кардыёлагаў не ніжэйшая, чым у замежных спецыялістаў. Чарга ж — вынік неразвітай матэрыяльна-тэхнічнай базы. М. Манак кажа: "Чарга на бясплатную аперацыю доўжыцца некалькі гадоў. Тыя ж, хто можа заплаціць за расходныя матэрыялы (2 000 долараў ЗША), чакаюць некалькі месяцаў. Лічаныя дні спатрэбіцца на падрыхтоўку да аперацыі хворага, які пойдзе на аперацыю. Пры высокай якасці кошт аперацыі ў Мінску ў чатыры разы ніжэйшы за аналагічную, напрыклад, у Германіі".

28 працэнтаў першаснай інваліднасці, сцвярджае Яўген Белаенка, дырэктар НДІ траўматалогіі і артапедыі, адбываецца ад атрымання пашкоджанняў пазваночніка і чэрапа. Вельмі актуальнае пытанне — лячэнне скаліёзу. У інстытуце распрацаваны фіксатары для пашкоджанага пазваночніка, металічныя канструкцыі, што дазваляюць пасля аперацыі часткова распрамляць пазваночнік. У інстытуце пратэзуюць тазасцегнавыя, каленныя суставы. І тут існуе чарга, нягледзячы на тое, што некалькі гадоў таму рабілі 350, а цяпер — 1 100 аперацый у год. З'яўляюцца новыя метады лячэння, лекавыя сродкі, якія маюць аўтарскія пасведчанні. Застаецца актуальнай празмерная эксплуатацыя апаратуры.

Кожныя 10—15 хвілін у свеце памірае 1 000 чалавек, кожны шосты — ад рака. Намеснік дырэктара па навуцы Інстытута анкалогіі Аляксандр Машэўскі паведаміў, што за апошнія 25 гадоў колькасць анкалагічных захворванняў на Беларусі павялічылася ў два разы, за мінулыя дзесяць гадоў — на 30 працэнтаў.

У інстытуце распрацавана новая тэхналогія выяўлення анкалагічнай хваробы — скрынінг, антыаксідантны комплекс. Вынаходкі ў рэнтгенаграфіі дазваляюць (што вельмі важна для нашай забруджанай радыенуклідамі краіны) паменшыць дозу апраменьвання ў час рэнтгену ў 500 разоў.

І яшчэ некалькі лічбаў, якія паказваюць, што рак можна лячыць, асабліва пры ранняй дыягностыцы. Сёння ў Беларусі на ўліку 143 тысячы вылечаных чалавек, якім ставілся анкалагічны дыягназ. 47,9 працэнта з іх перажылі крытычны рубеж — пяць гадоў. Калі рак выяўляўся на першай стадыі, лічба станоўчых вынікаў вышэй — 98,99 працэнта.

**Алена СПАСЮК.**



ЛЕГЕНДА АЙЧЫННАГА СПОРТУ — Анатоль ЮЛІН

# ЁН ПРОСТА ЖАДАЎ БЫЦЬ ПЕРШЫМ



## ГАЛОЎНАЯ ВЯРШЫНЯ

Чацвёртае месца на Сусветным фестывалі моладзі было досыць ганаровым, але ўжо сярод спартсменаў ішлі чуткі, што СССР хутка ўвальецца ў алімпійскую сям`ю і возьме ўдзел у Алімпіядзе-52. А гэта ўжо азначала істотна іншы ўзровень, іншыя вынікі і, зразумела, іншую падрыхтоўку. Каб гэта зразумець, трэба зноў вярнуцца ў Мінск, дзе тады ў асноўным трэніравалася група Б. Левінсона, якую называлі "будучыя надзеі". Зала не стадыёне інстытута фізкультуры (20х12 метраў) у тыя часы не мела не толькі душавой, але нават умывальніка. Раптам у сталіцу Беларусі прыехаў старшыня Усесаюзнага камітэта па фізкультуры і спорту Мікалай Раманаў. Ён захапіў з сабой старшыню беларускага камітэта і адразу пайшоў на стадыён. А насустрач уся група Лівенсона. Раманаў пытаецца:

— Чаму такія мокрыя?

— А ў нас няма дзе памыцца.

— Хто кіраўнік?

— Вось ён.

— Дык што, для членаў зборнай Савецкага Саюза вы ўмывальнік зрабіць не можаце?

Так стала зразумелым, што падрыхтоўка да Алімпійскіх гульняў ужо пачалася.

І сапраўды, вясною Цімафея Лунёва і Анатоля Юліна выклікалі на ўсесаюзны трэніровачны збор у Нальчык, дзе яны аж да 1953 года праводзілі кожную вясну. Працаваў з імі трэнер зборнай Саюза Вячаслаў Садоўскі. І вось тады Юлін зразумеў, што калі ён не палепшыць свой вынік як мінімум на 2,5 секунды, Алімпіяды яму не бачыць, бо акрамя Юліна і Лунёва быў яшчэ вельмі таленавіты Юрый Літуеў, а месцаў у камандзе было няшмат, таму ўвесь час праводзіліся кантрольныя спаборніцтвы. У выніку... паехалі ўсе трое.

Успамінае Анатоль Юлін:

— На канчатковым адборы я стаў трэцім, а трэнерскі савет вызначыў маю задачу: быць у фінале шостым. І вось з Ленінграда мы поездам выехалі ў Хельсінкі. Калі выйшлі з вагона, звярнуў увагу, што ўсе мясцовыя, асабліва малыя, глядзяць на нас неяк спалохана. Перакладчык патлумачыў: "Тут вядзецца прапаганда, што рускія — дзікуны, яны могуць толькі забіваць старых і дзяцей". Я яму не паверыў. І правільна зрабіў: праз некаторы час усе дзеці Хельсінкі сталі нашымі сябрамі.

Спартсмены з сацыялістычных і капіталістычных краін жылі асобна, а чацвёра прадстаўнікоў лёгкай атлетыкі Беларусі: Міша Салтыкоў, Міша Крываносаў, Цімафей Лунёў і я — разам. І нам вельмі хацелася паглядзець на іх трэніроўкі. Тым больш мне: я ж "капіталістаў" да таго ў вочы не бачыў. І вось аб`яўляюць: мы да іх едзем у госці на стадыён. Як прыбылі, я адразу падышоў да бар`ерыстаў, што выконвалі практыкаванні. Яны мяне здзівілі: каб такое вытвараць, трэба дзесяць гадоў вучыцца. Ды і па сваіх фізічных даных мы ім уступалі, асабліва чарнаскурым атлетам. Цімафей жартаваў з сябе: "Самае вострае калена ў свеце", а што было рабіць мне з 172 сантыметрамі росту? Яны ж усе былі значна мацнейшымі, што давала ім перавагу. Напрыклад, амерыканец Мур (мы ўпершыню гэта бачылі) пераадольваў адлегласць паміж бар`ерамі за 13 крокаў. А я бег за 15, ды і то — толькі першыя сем бар`ераў, а потым пераходзіў на 17 крокаў.

Уяўляеце, колькі часу губляў? Але я прывык змагацца да канца.

Забег свой выйграў з добрай перавагай, але праз паўтары гадзіны трэба бегчы ў чвэрцьфінале, куды траплялі па тры мацнейшых з кожнага забегу. Зноў перамог, але ўжо са значным напружаннем. На наступны дзень — паўфінал, але калі трэнер паведаміў састаў, мне стала трошкі жахліва: чацвёра мелі вынікі лепшыя за мой. І я вырашыў (хоць і няверуючы): як Бог дасць.

Бог "даў" выдатна: свой асабісты рэкорд я палепшыў на цэлую секунду, трапіў у фінал. Як бег — не памятаю. Але пасля фінішу Мікалай Раманаў абняў нас з Літуевым і сказаў: "Дзякуй вам, хлопцы". Юра стаў другім, я — чацвёртым.

Паколькі Юлін выступіў найбольш удала з сямі прадстаўнікоў рэспублікі (акрамя лёгкаатлетаў, там яшчэ былі два фехтавальшчыкі і вясляр), то ўшанаванняў і ўзнагарод ён атрымаў нямала. На душы было радасна і ... трывожна. Сутыкнуўшыся з такімі сур`ёзнымі сапернікамі, Анатоль зразумеў, як шмат яму яшчэ не хапае. Нават "свой", Юрый Літуеў, меў лепшыя фізічныя якасці: вярнуўшыся пасля Хельсінкі, ён амаль адразу "ўпісаўся" ў 13 крокаў паміж бар`ерамі, што для "нізкарослага" Юліна было немагчыма. Трэба было шукаць іншыя шляхі.

— Я вырашыў давесці тэхнічнае майстэрства да такога ўзроўню, каб не быў страшны ніякі рэжым, хай нават сапернік бяжыць у 12 крокаў. Заняўшыся гэтым, я на наступны год прайграў "13-крокаваму" Літуеву ўсяго 0,2 секунды. Вось тады і зразумеў: я на правільным шляху. Філігранная тэхніка і максімальная частата бегу паміж бар`ерамі — мой шлях да перамог. У мяне ж "разыходжанне" на "гладкай" і бар`ернай дыстанцыях было ўсяго 1,2 секунды. Калі б сёння беларускія бегуны на 400 метраў, якія пераадольваюць 400 метраў за 47 секунд, мелі такую тэхніку, то яны, я ўпэўнены, паказвалі б тэхніку сусветнага класа.

1954 год стаў для Анатоля Юліна ў некаторым сэнсе пераломным. Ён закончыў інстытут фізічнай культуры, шмат чаго зразумеў у методыцы спартыўнай трэніроўкі. І цяпер удваіх з трэнерам яны складалі дуэт, які ішоў да галоўнай мэты — чэмпіёнскага медаля. Толькі вось дасягнуць яе было вельмі няпроста. Юлін разумеў, што значна павысіць хуткасць бегу ў 24 гады практычна немагчыма (ва ўсякім выпадку — вельмі праблематычна), таму вырашыў будаваць сваю тактыку на дзвюх складаючых: тэхнічным майстэрстве і ўменні зрабіць... немагчымае. Менавіта ў такім настроі ён прыехаў разам з Юрыем Літуевым (які быў заўсёды першым, а Юлін — другім) у Берн, на чэмпіянат Еўропы. Швейцарскія газеты пісалі, што інтрыгі не будзе: Літуеў стане першым, Юлін — другім. Вось толькі "другі" думаў інакш.

— Я вырашыў, што калі мне дастанецца дарожка бліжэйшая, чым Літуеву, я ў яго выйграю за кошт хуткага пачатку, гэта значыць, зраблю адрыў, і Юра мяне не дагоніць. І вось перад стартам прыходзіць трэнер і гаворыць: "Юлін — другая, Літуеў — пятая". Усё! Выходжу з гасцініцы, а насустрач ідзе Яўген Буланчык, з якім мы сябравалі. Я кажу яму: "Жэня, ты новага чэмпіёна Еўропы бачыў?" А ён: "Спаборніцтвы яшчэ не пачыналіся". "Нічога, заўтра я стану чэмпіёнам!"

І сапраўды, я паказаў у забегу 51,1 секунды, і трэнер сказаў, што пажадана паўтарыць гэты час у фінале. Я адказаў, што прабягу хутчэй, за 51 секунду. Літуеў ухмыльнуўся: як жа... Але ў фінале я прабег за 50,5 секунды, стаў чэмпіёнам Еўропы, а ўсвядоміў гэта толькі тады, калі нашы дзяўчаты ўвесь твар мне вымазалі губной памадай.

## НОВАЕ ЖЫЦЦЁ, АЛЕ МЭТА ТАЯ Ж

Такіх выпадкаў праяўлення лепшых байцоўскіх якасцей Анатоль Юлін мог бы расказаць сотні. Але мы вырашылі адхіліцца ад яго багатай практыкі барца за медалі і адразу перайсці да пераломнага для кожнага вялікага спартсмена моманту — рашэння "павесіць шыпоўкі на цвік". Многія з вядомых у гэты перыяд "ламаліся", не маглі прымірыцца з тым, што з вышыні ўсеагульнага прызнання і захаплення трэба было апускацца да будзённага. Але і тут Юлін пайшоў сваім шляхам: папрасіў замацаваць за ім сярэднюю школу, дзе пачаў "з нуля". І прайшло зусім няшмат часу, а яго падапечныя сталі прыкметнымі не толькі на раённых і гарадскіх спаборніцтвах... Да яго сталі прыходзіць па параду вядучыя лёгкаатлеты спачатку рэспублікі, а пасля і Савецкага Саюза. Таму назначэнне Анатоля Іванавіча трэнерам зборнай СССР па Беларусі было ўсімі ўспрынята з задавальненнем. А яго падапечныя адразу замацавалі свае пазіцыі не толькі ў зборнай СССР, але і на міжнароднай арэне. Варта прыгадаць такія імёны, як майстар спорту міжнароднага класа Імант Кукліч, чэмпіён Савецкага Саюза і ўдзельнік Алімпійскіх гульняў; заслужаны майстар спорту Таццяна Зелянцова, чэмпіёнка СССР і Еўропы ў бегу на 400 метраў з бар`ерамі; заслужаны майстар спорту Аляксандр Васільеў, чэмпіён СССР, пераможца мемарыялу братоў Знаменскіх, прызёр чэмпіянату Еўропы і ўдзельнік Алімпійскіх гульняў у бегу на 400 метраў з бар`ерамі; заслужаны майстар спорту Аляксандр Трашчыла, чэмпіён СССР, прызёр Еўропы і Алімпійскіх гульняў у бегу на 400 метраў; майстар спорту міжнароднага класа Таццяна Курачкіна, чэмпіёнка свету і ўдзельніца Алімпійскіх гульняў у бегу на 400 метраў з бар`ерамі; майстар спорту міжнароднага класа Уладзімір Падаляка, сусветны рэкардсмен у эстафеце 4х800 метраў...

Многія з выхаванцаў Юліна пайшлі па шляху настаўніка: сталі трэнерамі, спартыўнымі работнікамі, паважанымі ў рэспубліцы людзьмі. Так, Барыс Крыштановіч, чэмпіён Рэспублікі Беларусь у бегу на 400 метраў з бар`ерамі, зараз дзяржаўны трэнер краіны, майстры спорту Леанід Кустаў і Тамара Калеснікава выхоўваюць маладых здольных бар`ерыстаў у адной спартыўнай школе... А ёсць і такія, што абралі іншую кар`еру: майстар спорту Уладзіслаў Астапенка стаў прафесарам, дырэктарам радыелагічнага цэнтра краіны; Алег Кулінковіч — намеснік кіраўніка Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь; Міхаіл Баркун — рэктар каледжа сувязі ў Мінску, доктар навук...

Зрэшты, пералік прозвішчаў паважаных людзей, якія лічаць Юліна сваім настаўнікам, зойме больш месца, чым апісанне яго спартыўных і педагагічных дасягненняў. Мабыць, таму трэба прывесці тыя выказванні нашага героя, якія лепш за ўсё характарызуюць яго як чалавека цэльнага і прамога: "У цяперашнім свеце я ніяк не магу прыжыцца. Раней за спекуляцыю саджалі, а цяпер заахвочваюць. Але перарабляць мяне позна... Раней на інстытуцкіх спаборніцтвах прысутнічалі ўсе: настаўнікі, дэканы, рэктар. Не гаворачы ўжо пра больш высокі ўзровень. А зараз на іх нават прадстаўніка федэрацыі лёгкай атлетыкі няма, не тое што міністра спорту. Іх не ўбачыш і на чэмпіянаце рэспублікі.

Раней у Спорткамітэце (цяперашнім міністэрстве) працавала ў 5—6 разоў менш людзей, чым цяпер, ды і галоўны трэнер па выгляду не толькі "кіраваў", але і сам займаўся трэнерскай працай. Іншымі словамі, я лічу: не трэба дзесяцярым несці адно вядро вады. Вынікі ж не павысіліся, хутчэй — наадварот".

На вялікі жаль, Анатоль Іванавіч стаў радзей з`яўляцца каля беговой дарожкі з секундамерам у руцэ. І многім стала яго не хапаць...

**Юрый ВАЛОШЫН.**






**НА ЗДЫМКАХ: Анатоль ЮЛІН (60-я гады); Анатоль ЮЛІН і знакамітая Марыя ІТКІНА; апошні фініш А. ЮЛІНА, тут ён быў пятым.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД

# АГЛЯД ПАЛІТЫЧНАЙ І ПРАВАВОЙ ДУМКІ

**У рэспубліцы ў 90-я гады, асабліва ў другой іх палове, выдадзены шэраг навучальных дапаможнікаў і падручнікаў па філасофіі, сацыялогіі, палітталогіі, праву, гісторыі, падрыхтаваных беларускімі вучонымі. Гэта тлумачыцца тым, што ва ўмовах станаўлення дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі ўзрастае неабходнасць даследавання і вывучэння айчыннай палітыка-прававой думкі. І хаця ў канцы 50-х гадоў заслужаны поспех мела манаграфія І. Лушчынскага "Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў другой палове XIX веку", шырокую вядомасць атрымалі работы С. Сокала "Сацыялагічная і палітычная думка ў Беларусі ў другой палове XVI ст.", "Палітычная і прававая думка Беларусі XVI — першай паловы XVII стагоддзяў", С. Падокшына "Рэфармацыя і грамадская думка Беларусі і Літвы ў другой палове XVI — пачатку XVIII ст. ст." і шэраг іншых даследаванняў, дзе разглядаюцца палітыка-прававыя ідэі мысліцеляў Беларусі розных эпох, цэльнага і сістэматызаванага выдання па данай прабламе ў жанры навучальнага дапаможніка ў краіне ўсё ж такі не было. Запоўніў гэты прабел прафесар Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ, які падрыхтаваў кнігу "ГІСТОРЫЯ ПАЛІТЫЧНАЙ І ПРАВАВОЙ ДУМКІ БЕЛАРУСІ". Гэтая праца — першая ў краіне і вельмі ўдалая спроба прадставіць гісторыю палітыка-прававой думкі Беларусі ў такім поўным выглядзе — ад вытокаў да канца XVIII стагоддзя.**

Аўтар выдзяляе шэсць перыядаў. Першы — палітыка-прававая думка сярэдневякоўя (XI—XV стагоддзі), другі — эпохі Адраджэння і Рэфармацыі (канец XV—XVI стагоддзі), трэці — перыяд Контррэфармацыі і крызісу феадальна-прыгонніцкіх адносін (XVII — сярэдзіна XVIII стагоддзяў), чацвёрты — палітычная і прававая думка Асветніцтва (другая палова XVIII стагоддзя), пяты — палітычная і прававая думка канца XVIII — пачатку XX стагоддзяў (1795—1918), шосты — палітычная і прававая думка Савецкай Беларусі і беларускага замежжа.

Праўда, у навучальным дапаможніку разглядаюцца толькі чатыры перыяды. Аднак, ведаючы творчасць аўтара, кола яго навуковых інтарэсаў, можна спадзявацца, што завяршэнне работы будзе рэалізавана ўжо ў бліжэйшай будучыні.

Разглядаючы палітычную і прававую думку Беларусі ў сярэднія вякі (XI—XV стагоддзі), вучоны выдзяляе два фактары яе зараджэння: фарміраванне старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі і прыняцце хрысціянства, аналізуе ў гэтай сувязі погляды хрысціянскіх падзвіжнікаў Е. Полацкай, К. Смаляціча, К. Тураўскага і старажытныя летапісы. Звяртаецца ўвага на тое, што ў гэты перыяд развівалася царкоўна-палітычная ідэалогія, што знайшло свой адбітак і на абгрунтаванні ідэй Божага паходжання дзяржаўнай улады, богападабенства яго зямных носьбітаў, адказнасці свецкай улады перад Богам. Падкрэсліваецца, што Е. Полацкая, К. Смаляціч і К. Тураўскі, будучы вядомымі дзеячамі царквы, знаходзіліся і ў цэнтры палітычнага жыцця, чула рэагавалі на яго падзеі, уносячы ў палітыку таго часу хрысціянскія ідэі любві, заклікалі князёў да міру, згоды, асуджалі міжусобіцы. Як адзначае В. Шалькевіч, Ефрасіння Полацкая была прыхільніцай увядзення хрысціянскіх прынцыпаў у дзяржаўнае жыццё. Яна выказвалася за змякчэнне жорсткіх княжацкіх законаў, за пашырэнне сацыяльных функцый дзяржавы. У прыватнасці, падтрымлівала ўвядзенне ў Кіеўскай Русі (дарэчы, упершыню ў хрысціянскім свеце) дзяржаўнай дапамогі бедным, хворым, старым людзям.

На наш погляд, аналізуючы палітычныя ідэі айчынных мысліцеляў часоў Кіеўскай Русі, аўтару трэба было б засяродзіць увагу на негатыўнай ролі міжусобнай барацьбы старажытнабеларускіх княстваў. Абяскроўленыя Полацкае, Турава-Пінскае і Смаленскае княствы прыходзілі ў заняпад. Гэты факт цяжка перажывалі суайчыннікі, у тым ліку і названыя мысліцелі. Нездарма на працягу 200 гадоў — у XIII—XIV стагоддзях — у айчыннай гісторыі не зафіксавана імён, роўных Ефрасінні Полацкай, К. Смаляцічу, К. Тураўскаму.

Праўда, у пачатку XV стагоддзя В. Шалькевіч знаходзіць такую фігуру — балгарына Рыгора Цэмблака (1365—1419), у 1415 годзе выбранага мітрапалітам праваслаўнай царквы ў ВКЛ. Але гэта, як гаворыцца, ужо іншая песня, звязаная з фарміраваннем новага палітычнага ўтварэння — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

Што датычыцца аналізу ідэй айчынных мысліцеляў у наступны пасля распаду Кіеўскай Русі час, то якраз тут праявіўся недахоп аўтарскай перыядызацыі палітычнай і прававой думкі Беларусі. Другі перыяд (канец XV—XVI стагоддзі) аўтар разглядае як развіццё ідэй еўрапейскага Адраджэння і Рэфармацыі на айчыннай глебе. Гэты перыяд прадстаўлены такімі вядомымі імёнамі, як Ф. Скарына, М. Гусоўскі, Л. Літвін, С. Будны, В. Цяпінскі, А. Волан, А. Валовіч, Л. Сапега і менш вядомымі — А. Кульва, Я. Кішка, Л. Крышкоўскі, П. Гезка, М. Чаховіц.

Некаму з гэтых мысліцеляў аўтар адводзіць параграф (Ф. Скарына, М. Гусоўскі, М. Літвін), ідэі іншых прадстаўлены ў пэўнай сувязі, а аналізу поглядаў Льва Сапегі прысвячаецца цэлая глава. Відаць, да гэтага аўтара падахвоціла і тое, што размова ішла пра персаналіі markup рознай велічыні і той аб'ём навуковага матэрыялу, які знаходзіўся ў распараджэнні аўтара.

Пасля азнаямлення з гэтымі главамі прыходзіш да высновы, што асаблівасцю разглядаемай эпохі з'яўляецца росквіт палітыка-прававой думкі, усебаковае абгрунтаванне айчыннымі мысліцелямі (Ф. Скарына, С. Будны, А. Волан) ідэі прававой справядлівасці як асобага сацыяльнага інстытута, галоўнай функцыяй якога з'яўляецца гарманізацыя інтарэсаў і адносін паміж усімі грамадскімі саслоўямі. Дасягненнем данай эпохі можна лічыць і абгрунтаванне неабходнасці грамадскай згоды і класавага міру як умоў стабільнасці ў дзяржаве і грамадстве.

Трэці этап у развіцці айчыннай палітыка-прававой думкі В. Шалькевіч звязвае з Контррэфармацыяй і крызісам феадальна-прыгонніцкіх адносін (XVI — сярэдзіна XVIII стагоддзяў). Ён адзначае, што на змест творчасці айчынных мысліцеляў гэтага часу паўплывалі крызісныя працэсы ў эканамічным і палітычным жыцці Рэчы Паспалітай, якія акрэсліліся ўжо ў пачатку XVII стагоддзя і няўхільна нарасталі ў наступным. Аднак, нягледзячы на ціск з боку каталіцкай царквы, і ў гэты перыяд айчынныя мысліцелі падымалі і творча развівалі арыгінальныя палітычныя і прававыя ідэі.

У полі зроку аўтара дапаможніка знаходзяцца палітыка-прававыя ідэі П. Скаргі, К. Астрожскага, С. Зізанія, М. Сматрыцкага, А. Філіповіча, А. Алізароўскага, К. Лышчынскага, С. Полацкага і іншых.

У рабоце выяўляецца сувязь ідэйных поглядаў К. Лышчынскага са спадчынай мысліцеляў Адраджэння, адданасць С. Полацкага ідэалогіі асветніцкага абсалютызму ў Расіі, перакананасць А. Філіповіча ў перамозе ідэі адзінства славянскіх народаў, прагрэсіўная антыфеадальная ідэйная арыентацыя А. Алізароўскага.

Аднак, на наш погляд, асвятленне данага перыяду з'яўляецца больш дыскусійным. Адзначаючы, што Контррэфармацыя ў Беларусі абапіралася на рэакцыйныя рэлігійна-палітычныя групоўкі феадалаў, шляхты, манаскія каталіцкія ордэны, аўтар станоўча ацэньвае ордэн езуітаў, які, на яго думку, "актыўна ўздзейнічаў на грамадскую свядомасць у правільным накірунку". Гісторыя сведчыць якраз пра адваротнае: дзейнасць ордэна езуітаў на ніве асветніцтва садзейнічала паступоваму выцісканню старабеларускай мовы са школы. Мова К. Тураўскага, Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага і Л. Сапегі заставалася моваю простага народа, а шляхта і магнаты стараліся сваіх дзяцей вучыць польскай мове, пра што эмацыянальна пісаў В. Цяпінскі. Нам здаецца, што ў навучальным дапаможніку вышэйазначаныя акцэнты неабходна рабіць больш выразна.

Чацвёрты этап гісторыі палітыка-прававой думкі Беларусі вызначаны аўтарам як палітыка-прававая думка эпохі Асветніцтва (другая палова XVIII стагоддзя). Тут даследуюцца погляды Я. Яблонскага, С. Ляшчынскага, С. Канарскага, якіх, на наш погляд, наўрад ці можна аднесці да айчынных мысліцеляў. У дапаможніку выкладаюцца таксама погляды Г. Каніскага, М. Пачобута, М. Карповіча, К. Багуслаўскага, Д. Пільхоўскага, С. Страйноўскага, І. Храптовіча, Тызенгаўза, Я. Ясінскага, І. Яленскага, С. Зяновіча, П. Бжастоўскага.

У цэлым навучальны дапаможні напісаны добрай беларускай літаратурнай мовай. Асобай вартасцю яго з'яўляецца бібліяграфія, падабраная да кожнага раздзела. Аўтар гарманічна злучыў навуковасць і папулярнасць выкладання, што дае магчымасць чытачу засвойваць матэрыял лёгка і з цікавасцю.

**Уладзімір МЕЛЬНІК,**
**Аляксандр КОЗЕЛ.**

З АРХІВА

# Браніслаў ЭПІМАХ-ШЫПІЛА: «ЖЫВУЧЫ Ў БЕЛАРУСІ, АДЧУВАЎ СЯБЕ ШЧАСЛІВЫМ...»


Прафэсар БРАНІСЛАЎ ЭПІМАХ-ШЫПІЛА (*4.IX.1859 — †6.VI.1934).

4 верасня мінулага года споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння таленавітага навукоўца, выдатнага беларускага грамадскага дзеяча Браніслава Эпімах-Шыпілы. Шмат якія старонкі яго жыцця вядомыя зацікаўленым чытачам, але ж не ўсе, напэўна, разумеюць, чаму, вярнуўшыся на радзіму ў 1925-м годзе, ён праз 5 гадоў зноў пакінуў яе.

Б. Эпімах-Шыпіла — адзін з тых 108 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія праходзілі па сфабрыкаванай органамі ДПУ БССР справе "Саюза вызвалення Беларусі". Калі 18 ліпеня 1930 года яго арыштавалі, вучоны меў ужо сталы ўзрост, але яшчэ плённа працаваў і стаяў далёка ад палітыкі, тым больш "звяржэння існуючага строю". Гэта не маглі не ведаць тыя, па загаду якіх Эпімах-Шыпілу прыцягнулі да следства. Але жыццёвая трагедыя шмат каго з беларускіх інтэлігентаў ставілася па загадзя напісанаму сцэнарыю, і пакутавалі звычайна лепшыя.

Браніслаў Ігнатавіч сядзеў у астрогу два месяцы. 12 верасня 1930 года крымінальная справа па яго абвінавачванню была спынена, і ён вызвалены. Разам з ім пазбеглі судовай расправы яшчэ 18 чалавек. Астатніх прыгаварылі да розных тэрмінаў зняволення ў канцлагеры альбо высылцы.

Вызваленне не прынесла Б. Эпімах-Шыпілу заспакоенасці: забаранялася жыць у Мінску, а значыць і працаваць. Восенню 1930-га ён вярнуўся ў Ленінград, дзе праз 4 цяжкія гады, 6 чэрвеня 1934 года, памёр.

У матэрыялах па справе "Саюза вызвалення Беларусі", што захоўваюцца ў архіве КДБ Рэспублікі Беларусь, ёсць 4 паказанні Б. Эпімах-Шыпілы. Яны датаваны 7 жніўня, 2, 3 і 14 верасня 1930 года. Паказанні 7 жніўня, 2, 3 верасня аўтабіяграфічнага характару і вельмі цікавыя сваёй хранікальнай дакументальнасцю. Апошняе, ад 14 верасня, адрозніваецца ад папярэдніх. Пры яго чытанні ўзнікае сумненне ў тым, што яно напісана самастойна, без націску з боку следства. Асабліва выказванні аб контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратычным беларускім шавінізме — тыповыя для многіх паказанняў па справе "СВБ".

Паўстае пытанне, дзеля чаго следству гэта спатрэбілася, калі справа ўжо была спынена. Магчыма, падштурхоўвала адсутнасць "пакаяння". І Эпімах-Шыпілу прымусілі гэта зрабіць хаця б 14 верасня.

Паказанні ад 7 жніўня, 3 і 14 верасня друкуюцца ў перакладзе з рускай на беларускую мову.

**Нона ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

* **2 верасня 1930 г.** Я, Браніслаў Ігнацьвіч Эпімах-Шыпіла, радзіўся на Падзвіньні былога Лепельскага павету Віцебскай губерні, з бацькоў земляробаў, у 1859 годзе. Калі мне было год ці паўтары гады, бацькі мае з Падзвіньня пераехалі ў фальварак Залессе каля Ветрына. Тут я правёў сваё дзяцінства, пасьвіў гусей, а потым дробную жывёлу да 9 гадоў, калі памёр мой бацька, пакінуўшы ўдавой матку і дваіх малодшых маіх братоў. Пасля гэтага ўскорасці ўзяў мяне на выхаваньне родны дзядзька мой Фадзей Вікенцьевіч Эпімах-Шыпіла, які быў цывільным інжынерам у Рызе, чалавек не жанаты. Ён аддаў мяне ў прыгатаваўчую клясу Рыжскай Александраўскай гімназіі. Спачатку ён плаціў за мяне і карміў, але праз год ці паўтара, як сірата і за добрае вучэнне я быў свольнены ад платы за вучэнне і пачынаючы з трэцяй клясы стаў сам даваць урокі і аплачываць сваё утрыманне. У 1880 годзе скончыў я гімназію і на собраныя грошы паехаў ва Універсітэт у Пецярбург, дзе і паступіў на гісторыка-філёлёгічны факультэт. Як аконччыўшы з залатым медалём я быў свольнены ад платы за слуханьне лекцый і атрымаў, так званую тады, Імператарскую стыпендыю ў 100 руб. у год. Меўшы рэкамендацельны ліст ад быўшага вучыцеля майго Янчевецкага да яго прыяцеля Палевога я быў прыняты пасьледнім на кватэру с умовай займацца з яго дзвюма сынамі, з каторых адзін быў у гімназіі, а другі — у кадэцкім корпусе.

У Петра Мікалаевіча Палевога, вядомага літэратара, пражыў я, такім чынам, два гады. Зарабляючы ўрокамі я меў магчымасць утрымліваць матку і двух малодшых братоў сваіх, з якіх адзін скончыў гімназію і паступіў ва універсітэт, але з недахопу сродкаў мусіў пакінуць яго і паступіць у Казённую палату на службу, а другі, пазбаўлены здольнасці да навукі чуць здолеў скончыць гарадское вучылішча і паступіў на службу на жалезную дарогу кандуктарам.

У 1885 г. скончыў я Універсітэт са ступеньню кандыдата гісторыка-філёлёгічных навук і пасля прэдстаўленьня дысыртацыі атрымаў дыплём. Абраўшы з трэцяга курса сваёй спецыяльнасцю клясычную філёлёгію я думаў быць прэпадавацелям грэцкай і лацінскай мовы, а таксама іх літэратур у гімназіі, але дзеля гэтага трэба было яшчэ практыкавацца і здаць педагогічны экзамен, пасля чаго я атрымаў ад Папечыцеля Пецярбургскага пасведчанне на права прэпадаваць у гімназіях і прагімназіях памянёныя прадметы. Але з прычыны таго, што я па дакументам лічыўся каталіцкай веры і быў не велікарускага паходжання, бо ўсіх католікаў тады лічылі за палякаў, мне ўсюды адмаўлялі.

Пяць гадоў ня мог я нідзе атрымаць месца вучыцеля і мусіў прабівацца то прыватнымі ўрокамі, то работай, якая даставалася па вольнаму найму. Так, быў я каля году памочнікам рэдактара журнала Міністэрства шляхоў зносін, паўтара года ўчыцелям у князей Куракіных в Мологском уездзе Яраслаўскай губерні, настаўнікам у Грэйга — члена Савета Міністэрства фінансаў. После паступіў я па вольнаму найму ў бібліятэку Пецярбурскага універсітэта, калі яна пераносілася ў новае памяшчэнне.

Праслужыўшы два гады па вольнаму найму, я, нарэшце, быў залічаны ў штат памочнікам бібліятэкара. На гэтай службе я праслужыў да 1925 года і гэта была мая галоўная служба. Апрача яе я меў урокі ў мужской гімназіі пры касцёлы Свят. Кацерыны, дзе прэпадаваў лацінскі і грэцкі языкі больш 20 гадоў.

У 1907 г. быў запрашаны ў Імператарскую рымска-каталіцкую Духоўную Акадэмію чытаць лекцыі па грэцкаму языку і таратуры, прабыў лектарам 10 гадоў. Больш 10 гадоў састаяў лектарам лацінскай мовы клясічных літаратур на вячэрніх агульна-адукацыйных курсах Чэрняева. Чатыры гады выкладаў лацінскую мову ў жэнскай гімназіі Могілянскай "Новая Васілеостраўская школа". Каля трох лет вучыў у Беларускай гімназіі ў Ленінградзе (Пецярбургу. — **Н. В.**) беларускую мову і літаратуру і яшчэ ў некаторых школах.

Жывучы ў Ленінградзе больш чым 40 гадоў я трымаў у сябе землякоў-беларусаў, каторыя вучыліся ў высшых установах Ленінграда, або працавалі на фабрыках. Кватэра мая была, можна сказаць, клюбам беларускім у Ленінградзе. Кожную суботу сабіраліся ў мяне землякі пагутарыць аб сваім краі, папеяць беларускія песьні, некаторыя прыносілі свае вершы, апавяданні, напісаныя па-беларуску і чыталі іх перад усімі. Усе чуліся тут як у сябе дома на Радзіме. Апрач гэтага ладзілі мы беларускія ігрышчы: наймалі залю і раз у год ігралі дзеля шырокай публікі беларускі тэатр, каторы дужа падабаўся і аб каторым заўсёды бывалі прыхільныя водзывы ў Ленінградскай прэсе, якая называла іх "уютным белорусским уголком".

Пачынаючы з 1905 г., калі нарэшце скасавана была забарона беларускага друку, калі беларусы свабодней уздыхнулі, я разам з некаторымі таварышамі аснавалі выдавецкае таварыства "Загляне сонца і ў наша ваконца".

**P.S. Захаваны правапіс арыгінала.**

**(Працяг будзе).**



СПАДЧЫНА



**Чалавек, які пражыў большую частку свайго жыцця, абавязкова пачынае цікавіцца адносінамі да сябе сваіх дзяцей і ўнукаў. У гэты час з куткоў яго памяці ўсё часцей выплываюць успаміны пра бацькоў і дзядоў, іх жыццёвую мудрасць і ўменне ўсё ў гэтым жыцці абгрунтаваць. Сама па сабе прыходзіць пара падвесці вынікі свайго жыцця. Што пасля мяне застанецца? Ці магчыма быць спакойным за сваіх дзяцей і ўнукаў?**

# РАЎБІЦКІ МУЗЕЙ

Гэтыя пытанні паўсталі перада мной, калі пачала працаваць у аддзеле народнага мастацтва Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, дзе сустрэлася з невядомымі для мяне па тых часах сялянскімі вырабамі. Звычайна мастацтвам лічыліся творы прафесійных мастакоў: жывапісцаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога ўхілу. Размовы пра выставы ў вядомых музеях Саюза былі з'явай амаль будзённай. Так, мы ездзілі ў Эрмітаж — паглядзець (тады матэрыяльныя магчымасці дазвалялі гэта зрабіць нават студэнтам). У краязнаўчы музей часцей за ўсё вадзілі малодшых школьнікаў. Сярод дарослых аматараў сялянскай культуры быту налічвалася няшмат. Ды і прадстаўлена яна была ў экспазіцыях музеяў не лепшым чынам. Больш таго, усё, што тычылася вёскі, лічылася "бескультур'ем". Сама ж вёска імкнулася падпарадкоўвацца гарадскому ладу. І, мабыць, мне небам наканавана пайсці далей па "сялянскай сцяжынцы", урэшце вывучыць тое, што павінна была ведаць з маленства — мае бацькі жылі ў вёсцы.

У той час мастацкі музей рыхтаваўся адкрыць свой філіял у адрэстаўраваным былым культавым будынку сярэдзіны XIX стагоддзя ў Раўбічах — Музей беларускага народнага мастацтва з творaў сялянскага ўжытку, якія знаходзіліся дагэтуль у сховішчах. Асноўнымі стваральнікамі экспазіцыі, як і самога музея, былі Юрый Карачун, яго намеснік Ірына Паньшына і загадчык філіяла Таццяна Сцёпіна. Яны добра ведалі музейную справу, каштоўнасць калекцыі, якую мелі намер выстаўляць.

Шмат дарог прыйшлося праехаць і працаваць супрацоўнікам музея, у ліку якіх былі і я. А там, кажучы словамі беларускай прымаўкі: "Што ні край, то звычай! Што ні сяльцо, то нараўцо!"

Калекцыя святочнага адзення канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, сабраная з розных куткоў Беларусі, якая вельмі дакладна дае ўяўленне пра мастацкі густ і майстэрства сялян, зрабілася асновай нашай пастаяннай экспазіцыі. Кожная рэч святочнага сялянскага ўбору, асабліва жаночага, адпавядала вякамі ўсталяванаму мясцоваму парадку выканання, каб, скажам, на кірмашы досыць было зірнуць і адразу пазнаць, адкуль прыбылі госці.

З рук у рукі, з пакалення ў пакаленне перадаваліся не толькі майстэрства, але і гісторыя свайго роду ад сёмага калена. З чатырох год дзяўчат і хлапчукоў пачыналі выхоўваць як будучых гаспадынь і гаспадароў, разумець сваё прызначэнне на зямлі.

Да вяселля, вяршыні жыцця, дзяўчына рыхтавалася доўга, складаючы ў скрыню ўсё, што напрацавала ўласнымі рукамі. Да вяселля рыхтаваўся і хлопец, разам з бацькам аваладваў навукай пра лес, без якога тады немагчыма было жыць. У нас казалі: "Беларус на дрэве нараджаецца, на дрэве і на той свет адпраўляецца", бо і хата, і царква, лыжка і крыж, стол і лаўка, калыска і труна — усё выраблялася з дрэва.

Скарыстоўваючы дары прыроды дзеля сваёй патрэбы, нельга крывіць душой, браць болей, чым здолееш апрацаваць і спажыць. "Лес крадзе — поле бачыць, поле крадзе — лес бачыць" — гэта пра крыштальную чысціню чалавека, які павінен жыць на зямлі, дзе ёсць поле і лес, дзе чалавек будуе сабе жыллё, вырошчвае хлеб і лён, здабывае гліну, каб зрабіць посуд і зварыць у печы ежу.

Вялікая калекцыя ўжытковых рэчаў ад знакавых да будзённых прыцягвае наведвальнікаў той цеплынёй, якую набылі калісьці ад рук нашых продкаў і захоўваюць праз доўгія гады: плеценыя з лазы кошыкі, точаныя верацёны і разныя прасніцы, ступкі і лыжкі, тканыя паяскі і гліняныя збанкі ды міскі. Многае з таго, што сяляне выраблялі зімовай парой сабе і іншым на патрэбу, нам даўно знаёмае. Кожны ведае, што такое набожнік і якое значэнне мае для чалавека ручнік. Гэта другі пасля хлеба асноўны сімвал. "Без ручніка беларусу ні нарадзіцца, ні памерці нельга".

Народжанага прымалі на рукі, агорнутыя ручніком, і труну ў яму таксама на ручніку апускалі. А вясельныя ручнікі? Колькі іх трэба было дзяўчыне напрацаваць, каб выглядаць спраўнай гаспадыняй!

Даўнія і сучасныя ручнікі са слаўтых вёсак Неглюбка і Моталь, як і традыцыйныя рознакаляровыя посцілкі і дываны, з'яўляюцца таксама незаменнымі экспанатамі ў нашым музеі.

Асобная размова пра культавыя рэчы. Яны прадстаўлены традыцыйнай народнай скульптурай і арнаментальнай разьбой. Гэта распяцці, вобразы евангелістаў і апосталаў, святыя, царскія брамы XVII—XIX стагоддзяў. Найвялікшую цікавасць уяўляюць царскія брамы, сплеценыя са звычайнай жытняй саломы — рэчы унікальныя. Ніводзін у свеце народ не дацяміў бляск разных пазалочаных іканастасаў замяніць бляскам "залатой" саломы. А вось у беларускіх вёсках Лемяшэвічы Пінскага і Вавулічы Драгічынскага раёнаў нарадзілася такое цікавае вынаходніцтва.

Болей за семдзесят выстаў прайшло ў музеі. Калі зямлю не засяваць, яна зарасце пустазеллем. Так і з народным мастацтвам. Што ж тады застанецца ад нас?

**Валянціна ПІСАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: экспанаты музея.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**







ДЭБЮТ

# ПРАДРАКАЕ НЕБА

Гэта першыя вершы маладой беларускай паэткі, яе шчыры і чуллівы запеў, які становіцца і дэбютам нашай маладой паэзіі новага, XXI стагоддзя...

Дэбют атрымліваецца, як падаецца, шматпаказальным, сімвалічным. Многія крытычныя і чытацкія дапушчэнні аб тым, што на скрыжаванні эпох паэзія мусіць відазмяняцца, "увіртуальнівацца", крочыць — хоць і міжволі — да нязнаных міражоў постмадэрнізму, — не ва ўсім спраўджваюцца. Паэзія застаецца паэзіяй, пачуццё — пачуццём, метафара — метафарай. Слова паэтычнае хоча кранацца ўзнёслага, вечнага. Як і некалі беларускія ўзвышаўцы 20-х, як яшчэ нядаўна паэты 60-х—70-х, сваімі першакрокамі маладая паэзія XXI стагоддзя сведчыць пра сваё імкненне асвойваць найперш далячыні духоўныя, нябесныя. Яскравы прыклад — вершы Алесі Чабатар.

Алеся Чабатар — студэнтка III курса аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ, факультэта, які накіраваў у свет цэлыя пакаленні літаратараў. Дзесяцігоддзі існавала там студэнцкае літаратурнае аб'яднанне "Узлёт", якое і акрыляла да першапублікацый, прарочыла і торыла маладым дарогу ў творчасць (намаганнямі кіраўніка "Узлёту" — навукоўца і паэта Алега Лойкі — выдадзены некалькі паэтычных зборнікаў літаб'яднання).

Усё гэта, на жаль, застаецца ў гісторыі. Аднак нашае сёння запэўнівае ў тым, што "ўзлётна-ўзвышэнская" традыцыя — мацней часу, дужэй эпох". Як і дзесяцігоддзі таму, як універсітэцкім філфаку з'яўляюцца вершы ўзнёслага кшталту — як верш "Жаданне вышыні" Алесі Чабатар, нараджаюцца летуценні вершам "кранууца аблокаў".

Шлях да паэтычных нябёсаў — вечны шлях. Кожнае ўзыходжанне па ім — і новае, і няпростае. "Зямля вучыць палёту". І хочацца пажадаць маладым ікарам, каму "неба прадракае" паэтычную дарогу, урэшце пра гэтае неба не забыць...

**Алесь ПАШКЕВІЧ,**
**пісьменнік, кандыдат філалагічных навук.**

**Алеся ЧАБАТАР**

### БАРАНІ МЯНЕ

Барані мяне, Божа, грэшную,
пасля соцень старых пакут,
не апошнюю і не першую,
улюбёную ў родны кут.
Барані мяне, Божа, жорсткую —
зноў падчас барацьбы
загартоўваю памяць вострую
супраць няпраўды, ілжы.
Барані і слабую, Божа,
знявечаную шляхамі:
па-над Шчарай, Прыпяццю,
Сожам —
з усімі маімі грахамі.

### ЖАДАННЕ ВЫШЫНІ

Ці была насамрэч тая зямля,
што у сне навучыла палёту,
ці проста дарослая стала я —
і адчула тугу-самоту,
якая і па сённяшні божы дзень
палоніць мае неразумныя мары,
змушае пераўтварацца ў цень
і дакранацца да хмары, —
каб знайсці сваю лёгкасць?..
Так і зраблю. Схакаю ветру
ўзнёслага,
што адлюстроўваецца ў вачах;
мне толькі здалося,
што я дарослая,
што развучылася лётаць у снах.

* * *

Я да цябе прыходжу ў сне,
схаваўшыся пад белым шалем,
калі цвіце зямля ў вясне, —
прыходжу ў стомленым адчаі...
Павекі жалю расхіну,
нектар засвеціцца на вуснах.
Руку халодную вазьму —
табе не снілася спакуса?!
У шчасці, радасці, журбе,
ў сукенцы колеру спаткання
па срэбных зорах да цябе
ці прыбягу да рання?

* * *

Мае жаданні — толькі абалонка,
пазбаўленая вонкасці,
таму іх хаваю таропка
ад бессаромнай звонкасці...
Некаторым забаронена
нават кранацца жартаў, —
але большасці ўсё ж дазволена
ў зоркі пераўтварацца.

* * *

Я сканаю ў цэмры света —
хай мяне пазбавяць болю
тыя, хто ведае гэта:
мне не ўваскрэснуць болей.
Мне прадракала неба
загінуць у промнях сонца,
па чорнай, самлелай глебе
буду паўзці бясконца.
Рукі раскіну — хмары,
погляд спыню на зорках,
буду ляцець апантана
да першага зорку —
пакуль не пачую вечны
плач-запавет жураўліны, —
накіне журба на плечы
хустку з чорнай тканіны.

* * *

Я прыпынюся —
аб чымсьці гамоніць хмара.
Не адракуся
думак сваіх апантаных.
Я запытаю
неба аб вечнай долі —
не забываю
кімсьці забытай волі.
І схамянуся:
плячыма цяжар адчую.
Не адракуся —
дамавіну нясу святую.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# «СВЯТЛО РАДЗІМЫ»



Дзеля пашырэння дапамогі ў развіцці нацыянальна-культурнай дзейнасці беларусам замежжа па ініцыятыве беларусаў Латвіі і Эстоніі створана міжнародная грамадская арганізацыя "Асацыяцыя "Святло Радзімы", асноўная мэта якой не толькі захаванне традыцыйнай духоўнай і матэрыяльнай культуры ў замежжы, але і садзейнічанне стварэнню беларускіх інфармацыйна-культурных цэнтраў, развіццю гандлёва-эканамічных сувязей, стварэнню гандлёвых дамоў у іншых краінах. На грамадскіх пачатках старшынёй праўлення асацыяцыі абраны **Аляксандр БІЛЫК**, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі па вывучэнню нацыянальных меншасцей, выканаўчым дырэктарам — **Ніна ПЕТУХОВА**.



Праўленнем асацыяцыі, у якое ўваходзяць дасведчаныя спецыялісты па праблемах беларускай дыяспары, а таксама вопытныя юрысты і эканамісты, распрацаваны асноўныя праграмы дзейнасці асацыяцыі.

* **СПАДЧЫНА.** У рамках праграмы мяркуецца здзяйсненне сумесных праектаў з беларускай дыяспарай па захаванні традыцыйнай беларускай культуры, духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей беларусаў у іншых краінах свету, аказанне дапамогі нацыянальна-культурным аб'яднанням Рэспублікі Беларусь, аднаўленне помнікаў архітэктуры, культавых збудаванняў у Беларусі, рэстытуцыя культурных каштоўнасцей, арганізацыя разнастайных мерапрыемстваў.
* **АД РОДНЫХ НІЎ.** Праграма ставіць сваёй мэтай распаўсюджванне інфармацыі пра Беларусь, азнаямленне з яе сучасным жыццём, распрацоўку турыстычных марштураў, развіццё сувязей прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей рэспублікі з краінамі свайго гістарычнага паходжання.
* **ДЗЕЛАВОЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА.** Мэта праграмы — інфармацыйная падтрымка бізнесу выхадцаў з Беларусі, якія пражываюць за яе межамі, аказанне канкрэтных паслуг прадпрымальнікам па эфектыўнаму вядзенню бізнесу на Беларусі, абмену ідэямі паміж удзельнікамі ствараемай інфармацыйнай сеткі, садзейнічанне атрыманню кансультацый і падтрымкі з боку дзяржаўных устаноў і прадпрымальніцкіх структур, стварэнне сумесных прадпрыемстваў і гандлёвых дамоў.
* **ДЗЕЦІ.** Праграма накіравана на спрыянне арганізацыі аздараўлення дзяцей з Беларусі ў іншых краінах, адпачынку дзяцей беларусаў з-за мяжы ў Беларусі.
* **АДУКАЦЫЯ.** Праграма мае на мэце падтрымку беларускамоўных школ і факультатываў у замежжы. А таксама садзейнічанне стварэнню ўмоў для вывучэння родных моў, гісторыі, культуры для прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей у Беларусі.
* **ПАМЯЦЬ.** Арганізацыя догляду за месцамі пахавання родных і блізкіх па даручэнню замежных суайчыннікаў. Дапамога ў складанні радаводаў.
* **ГАРМАНІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ.** Падтрыманне і развіццё здаровага ладу жыцця. Духоўнае і фізічнае ўдасканаленне. Стварэнне клуба "ЭКСІД".

* * *

З дапамогай вядучых турыстычных фірм распавядаем больш падрабязна для тых, хто цікавіцца, пра распрацаваныя турыстычныя маршруты па Беларусі. Мы запрашаем наведаць старажытныя беларускія гарады, духоўныя, гістарычныя, культурныя цэнтры.

І хто нарадзіўся тут — ён ведае, а хто прыедзе першы раз — упэўніцца, што **Беларусь** — надзвычай прыгожы край, край сінявокіх азёраў, зялёных лясоў і палеткаў, краіна унікальнай гісторыі і багатай культурнай спадчыны, зямля, якую засяляе добры і гасцінны народ. І гэта любоў да свайго роднага куточка, і падарожжа па Беларусі дадуць вам сілы і моцы на доўгія гады…

**Вы можаце наведаць…**

**Мінск і наваколле.** Упершыню Мінск згадваецца ў 1067 годзе. Мінск — гэта горад, дзе можна ўбачыць вельмі цікавыя месцы і пазнаёміцца з культавымі помнікамі XII—XX стагоддзяў, наведаць музеі, тэатры.

**Нарачанскі край.** За прыгажосць яго называюць беларускай Швейцарыяй. Дарэчы, тут захаваліся помнікі архітэктуры XVII—XX стагоддзяў. Штогод сюды прыязджаюць турысты з розных краін свету, каб адпачыць, пакатацца на яхце і парыбачыць.

**Бярэзінскі біясферны запаведнік.** Цудоўны куток жывой прыроды, дзе на лясных сцежках можна сустрэць мядзведзя, ваўка ці лася, усцудзіць у прыбярэжных зарасніках качынае сямейства, паслухаць любоўную песню глухара. Многім гасцям з Эстоніі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Германіі, Францыі падабаецца цудоўны адпачынак, паляванне, дабытыя шыкоўныя паляўнічыя трафеі. А яшчэ ў царстве лесу знаходзіцца вельмі прыгожы гасцінічны комплекс, у якім ёсць рэстаран з нацыянальнай кухняй, бар, сауна.

Не менш цудоўнае месца для адпачынку і палявання — **Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры"**. Тут водзяцца ласі, мядзведзі, бабры, выдры, барсукі, норкі, рысі, буслы, магчыма паляванне на лася, казулю, кабана, ваўка, зайца, лісіцу, гусей. Ні з чым непараўнальная прыгажосць прыроды прыцягвае сюды не толькі турыстаў, але і паэтаў, мастакоў.



**Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці…** Старажытны горад Усходняй Еўропы, якому больш за адзінаццаць стагоддзяў. Ён захаваў сваё непаўторнае аблічча, помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры — сведчанне таленту і працавітасці палачан. Гісторыя Полацка з'яўляецца адлюстраваннем лёсу беларускага народа, тут заўсёды мірна ўжываліся розныя рэлігіі: праваслаўе, каталіцызм, іудаізм, уніяцтва, пратэстантызм. Сафійскі сабор, пабудаваны па заказу Усяслава Чарадзея ў XI стагоддзі, і музыка, якая гучыць пад яго купалам, Спаса-Праабражэнская царква з яе фрэскамі даюць магчымасць адчуць непаўторную чароўнасць старажытнага горада. Натхняльніцай будаўніцтва царквы была легендарная полацкая манахіня-асветніца Ефрасіння Полацкая.



**Мір** — паселішча, вядомае ва ўсім свеце сваім замкам, архітэктурным помнікам XVI стагоддзя.

**Нясвіж — былая рэзідэнцыя князёў Радзівілаў.** Тут можна ўбачыць палацапаркавы ансамбль, фарны касцёл, былы кляштар бенедыкцінак, іншыя грамадскія, культавыя і абарончыя збудаванні.

**Валожын, Пінск, Мір, Шклоў, Бабруйск** — найбольш вядомыя цэнтры яўрэйскай культуры. Праграма паездкі сусветна вядомых дзеячаў яўрэйскай культуры, навукі, палітыкі — ураджэнцаў Беларусі можа быць складзена па жаданню.



Азначаныя праграмы рэалізуюцца пры ўзаемадзеянні з дзяржаўнымі органамі, дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі, грамадскімі аб'яднаннямі.

Асацыяцыя створана для вас, паважаныя суайчыннікі. Мы запрашаем вас да ўдзелу ў ажыццяўленні праграм і чакаем прапаноў аб сумесных праектах.

**Наш адрас і тэлефоны: 220029, г. Мінск, вул. Камуністычная, 11-411. Т. 213-44-17, 284-63-44.**

НАТАТКІ ЯЎГЕНА ЛЕЦКІ

# ДОТЫК

**(Пачатак на 1-й стар.).**

І на завяршэнне пра некалькі віншаванняў з Расіі і Украіны. Імя Міколы Нікалаева, доктара гістарычных навук, адказнага супрацоўніка Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Пецярбургу, аўтара грунтоўнай арыгінальнай кнігі "Палата рукапісная", на Беларусі добра вядомае. Цяпер на аснове сваёй доктарскай ён падрыхтоўвае новую кнігу. А ў пошуках разрабаванай і раскіданай па свеце старажытнай беларускай рукапіснай спадчыны куды толькі ні трапляе. Напрыканцы года мінулага апынуўся ў Нямеччыне, адкуль я і атрымаў ад яго вестку. "*Ужо месяц жыву ў Дзюсельдорфе — нарэшце стаміўся ад новых (нямецкіх) уражанняў і ўзяўся Вам напісаць. Сярод новых уражанняў — знаёмства з нямецкім кніжным рынкам. Усё тут, здаецца, ёсць. Але новыя кнігі з'яўляюцца і (!) разыходзяцца. Шаленства "мілeніўма" (2000 год ад нар. Хрыста) тут ужо пачалося. Мноства альбомаў і кніг, якія "падытожваюць".*

*Я думаю пра тое, што Беларусі здарылася ў гэтым тысячагоддзі стаць асобнай дзяржавай. Але будаваць дзяржаўнасць — справа часу.*

*Нашым (мой + Ваша выдавецтва) укладам мог бы быць новы праект: гісторыя дыпламатычных адносін Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай Русі (дапятроўскі перыяд). Гэта была б публікацыя цікавага помніка часоў Аляксея Міхайлавіча (бацька Пятра I) (кніга для карыстання царскай сям'і і дыпламатаў — Пасольскага прыказа). Зараз 2 экземпляры ў Санкт-Пецярбургу і 1 — у Маскве. Больш няма. Кніга рукапісная. Тут партрэты ўладароў і гербы тых дзяржаў, з каторымі Масква мела адносіны. Сярод усіх — ВКЛ і Карона. ВКЛ на першым месцы. Пункт погляду — афіцыйны маскоўскіх цароў. Партрэты (6) + гербы (8) былі б файным фонам да тэксту (пераклад на сучасную бел. мову…) Аб'ём — невялікі. Толькі колер. Падручнік для падрыхтоўкі беларускіх дыпламатаў. Для карыстання гісторыкаў. Для самасцьвярджэння. 20 ілюстрацый + 2 аўтарскія аркушы тэксту. Усё! Але вельмі важная справа. Першая публікацыя! Напішыце, як зацікавіліся.*

*Шчаслівага Новага году!*

*Ваш Мікола Нікалаеў".*

Імя Аляксея Каўкі ўжо згадвалася на пачатку публікацыі. Кандыдат гістарычных, доктар філалагічных навук А. Каўка працуе ў Інстытуце славяназнаўства ў Маскве і з'яўляецца ў навуковым свеце бясспрэчным аўтарытэтам у беларускіх справах, а ў грамадскіх — сярод сваіх землякоў-суродзічаў.

Сяброўства наша налічвае шмат часу і запачаткавалася з Дома літаратара, дзе я ўпершыню (а гэта было з трыццаць ці і болей мо гадоў назад) убачыў і пачуў яго — у росквіце фізічных і духоўных сіл, стройнага і выразнага сваім скульптурным абліччам, з зычным нутраным голасам. Ужо адно тое, што чалавек, які даўно пакінуў Беларусь і апошнім часам працаваў на адказнай дыпламатычнай пасадзе ў Польшчы, але выступаў па-беларуску, усіх нас уражвала.

Потым у "Мастацкай літаратуры", дзе я ўзначальваў рэдакцыю, выходзіла кніга А. Каўкі "Тут мой народ" — смелая, прынцыповая, па канцэпцыі арыгінальная, усёй сваёй сутнасцю спрэс беларуская. Час быў для такіх выданняў спрыяльны (пачатак перабудовы), і таму яна ішла, хоць і тугавата, але наперад і, галоўнае, без вырэзвання жывога. Бо ў тадышнім Галоўліце ўжо на месца рэтраградаў прыходзілі маладыя і разумныя людзі. Карыстаючыся нагодай, добрым словам хачу згадаць імя нашай колішняй куратаркі, па-жаноцку прывабнай і яркай асобы спадарыні Кузьміной. Праўда, над ёю было яшчэ вышэйшае начальства. У асноўным удалося пераканаць і яго. Адзінае, з чым ніяк не маглі змірыцца, дык гэта з публікацыяй у кнізе фота сяброў сакратарыята Рады БНР; здымак гэты Каўка ўводзіў ва ўжытак упершыню. Потым, як вядома, ён тыражыраваўся сотні, а мо і болей разоў. "Хоць бы яны не так эфектна выглядалі!" — са шкадаваннем заўважалі адказныя асобы. А што было рабіць: не станеш жа іх, прадстаўнікоў беларускай інтэлектуальнай эліты, арыстакратаў духу, пераадзяваць у традыцыйныя нацыянальныя світкі ды кажухі і пераабуваць у лапці! Параілі на гэты конт звярнуцца ў ЦК КПБ, дзе пытанні культуры і літаратуры ў той час вёў цяперашні пасол у Румыніі Анатоль Бутэвіч, з якім мы амаль аднагодкі і вучыліся разам на філфаку універсітэта. А таму былі амаль што запанібрата. "Рады быў бы дапамагчы, ды не маю права па цяперашнім часе ўмешвацца і дыктаваць сваю волю", — кажучы так, Анатоль Іванавіч хітравата паглядаў на мяне. — Так што, Яўген, калі лічыш патрэбным і ў гэтым сапраўды перакананы — бяры адказнасць на сябе…"

Шмат новага, цікавага і для беларускага духоўнага самасцвярджэння значнага апублікаваў Аляксей Каўка ў выдадзеных яго стараннем і рупнасцю зборніках "Скарыніч", якія таксама праходзілі па нашай рэдакцыі. На жаль, з прыходам у выдавецтва новага дырэктара Георгія Марчука выпуск "Скарыніча", гэтага адзінага маскоўска-беларускага культурніцкага праекта, быў спынены, мяне з загадчыка спачатку знялі, а потым і ўвогуле з працы звольнілі, а наступнай аўтарскай кнізе Каўкі, якая значылася ў планах "Мастацкай літаратуры", дарогу перакрылі. Такім чынам, ягоныя дзве кнігі "Будам жыць" і "Жывом" з'явіліся крыху пазней у прыватным смаленскім выдавецтве.

Сярод беларусаў замежжа не ведаю больш за яго неспакойнага і гарачага характарам (што асабліва наглядна выяўляецца падчас вусных выступленняў) чалавека, які быў бы так апантаны ідэяй вольнай і незалежнай Беларусі і, вобразна кажучы, гарэў на вачах. А такое "самаспальванне" небяспечнае. На жаль, сэрца майго слаўнага сябра дало збой. Ды будзем спадзявацца, што палепшаныя пад Новы год жыллёвыя ўмовы паспрыяюць здароўю і Аляксей Каўка ў новым стагоддзі яшчэ неаднойчы парадуе нас сваёй новай кнігай, а публікацыямі ў перыёдыцы — тым больш, і мы яшчэ шмат разоў сустрэнемся ля цёплага "валуна пабрацімаў", што ляжыць — пакрэктвае і няўцерпна чакае нас у цэнтры стольнага Мінска.

**(Заканчэнне. Пачатак у № 4).**



*"Яўгенка, родная душа! Пасланец вострай асалоды — мая атрута і маё лякарства... Мілая паштовачка навагодняя на "Холміках" маіх — першай і, магчыма, адзінай будзе з Беларусі, бо нікога адрасам сваім новым не бянтэжыў, не лічачы аднаго-другога "казённага" дома ў Менску, уключна з "тэлефанаграмай" у "Голас Радзімы", ды і то, што там пакі яшчэ трывае твой пабратым, хоць добра адчуваю, разумею, наколькі яму нялроста, а часам невыносна і ачараваць чытача, і цнатлівасць палітычную захаваць. Але не буду займаць твой час лухтой старэчай. Падзякую толькі за цудоўнае зычанне. Не ведаю, а, мабыць, знаю, чаму гэтак узрадавала, расчуліла "лапша" твая (почырк) на канверце і, зразумела, неад'емны Лецкаў гумар. Поспехаў, дружа, сямейнага ладу толькі ля Каменя цёплага!*

*Аляксей Кайка".*

# ЖЫВОЙ ДУШЫ

Даўняе ў мяне сяброўства і з Антонам Сабалеўскім. Сваё працоўнае жыццё ён праслужыў у інжынерных войсках і ў чыне палкоўніка выйшаў у запас. Гэта па прафесіі. А па сутнасці душы і характару Антон Аляксандравіч — беларус да апошняй жылачкі і апошняга ўздыху. Менавіта такіх па духу вайскоўцаў-арыстакратаў, высакародных рыцараў, людзей высокіх памкненняў і шматгранных ведаў, арганічна далучаных да ўсяго, што адбывалася на Беларусі на тысячагадовым шляху, праз славу і няславу, пакуты і выпрабаванні, нам сёння вельмі і вельмі бракуе.

А яшчэ Антон Аляксандравіч — няўрымсны і на свае семдзесят вандроўнік. Наша супольнае падарожжа пачалося дзесяць гадоў назад, калі ён, на той час старшыня ці не першага на абшарах не былога, а тады яшчэ існага Саюза, беларускага зямляцтва ў Маскве, адгукнуўся на мой покліч як старшыні Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і разам з унукам Дзянісам, тады яшчэ хлапчуком, ды яшчэ адной маскоўскай беларускай далучыліся да "Спеўнага парахода" — аднаго з найцікавейшых праектаў "Бацькаўшчыны", сутнасць якога заключалася ў тым, што мы зафрахтавалі вялізны цеплаход, узялі на яго борт некалькі мастацкіх калектываў і ў юбілейны Багдановічаў год праехалі па расійскіх рэках, спыняючыся ў вялікіх гарадах і даючы там у гонар класіка беларускай літаратуры імправізаваныя канцэрты. Гэта захапляла і ўражвала. І праплылі мы, напэўна што першымі, пад беларускім нацыянальным сцягам. Ды тут, прызнаюся, была не мая як кіраўніка ініцыятыва, а яго, Антона Сабалеўскага. Сцяг той, дарэчы, цудадзейным чынам "вярнуў" дзеду ўнука, які згубіўся быў у велізарным, на сотню тысяч тлуме людзей, што сабраліся ў адным з волжскіх гарадоў на фестываль музычнага мастацтва. Дзеда там адшукаць практычна было немагчыма, а родны беларускі сцяг, які высока трымаў над натоўпам Антон Аляксандравіч, — адразу.

Пасля таго разам з саўтрыверцамі мы ўздоўж і папярок аб'ездзілі ўсю Беларусь. Але ёсць яшчэ і нязведанае. А ў гэтым годзе — адна дадатковая цікавостка. Маю на ўвазе запланаваны на лета няўрымсным Уладзімірам Ліпскім Усебеларускі фестываль гумару і народных рамёстваў, які, а ён дзесяцігадова-юбілейны, будзе праходзіць у сталіцы беларускага смеху і ўмельства — слаўтых Аўцюках на Магілёўшчыне. Пабыць там — атрымаць зарад бадзёрасці на некалькі гадоў наперад і далучыцца да гаючых жыватворных народных вытокаў. Мы сёлета вандроўку па Беларусі з магчымым заездам не толькі ў Аўцюкі, але і ў колішнюю старажытную цвярдыню — горад Смаленск — здзейснім! Усіх, хто пажадае далучыцца да мінулай славы айчыны і дзён сённяшніх, — ласкава запрашаем. Ды майце, шаноўныя, на ўвазе: такія вандроўкі, каб пазбегнуць нечаканасцяў і непатрэбных накладак, — плануюцца загадзя. Таму просьба свой удзел вызначыць, не адкладваючы на потым, і паведаміць пра гэта ці на адрас "Голасу Радзімы", ці непасрэдна ініцыятару і арганізатару ўсіх гэтых цікавых спраў, гэта значыць мне, Яўгену Лецку, на адрас: 220053, Рэспубліка Беларусь, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 52/9. Тэл/факс 213-05-44.

*"24.12.99. Масква*

*Шаноўны й вельмі паважаны Яўген Рыгоравіч!*

*Віншую Вас сардэчна з Новым, 2000 годам і Калядамі, моцнага Вам здароўя, добрага настрою, дабрабыту і ўсяго найлепшага Вам і Вашым сямейнікам жадаю на ўвесь год.*

*Плёну ў грамадзкай дзейнасці на карысць Беларушчыны. З вялікай цеплынёй успамінаю час сонечны, які мне і ўнуку Дзянісу падаравалі Вы ад "Сьпеўнага цеплаходу" да дзвюх апошніх вандровак па нашай Беларусі. Я зайсёды быў і буду аддany сьвятой справе Беларушчыны.*

*Асабліва хваліцца няма чым, але ў роспач не падаю.*

*Ваш Антон Сабалеўскі".*

Скажу шчыра: я вельмі перажываў, чакаючы адказу ад Іны Снарскай на свой папярэдні ліст. І не толькі таму, што яна для мяне ўвасабленне жаночай вабнасці — знешняй і ўнутрана-адухоўленай, гарманічна паяднанай, але ці не найперш па прычыне, што Іна ўспрымаецца сімвалам беларускасці, апетай у рамане У. Караткевіча "Нельга забыць" у вобразе Чазеніі — расліны, што ўвасабляе жыццястойкасць у самых неспрыяльных для выжывання ўмовах: яна здольная пускаць карэнне ў камяністы грунт, праратаць да сонца гнуткім сцяблом і распускацца гожымі кветкамі...

Прыход Іны да Беларусі, прарастанне беларускім паэтычным словам не было справай звычайнай, заканамернай, у пэўным сэнсе будзённай. Проста і натуральна пісаць па-беларуску было тым, хто роднае слова засвойваў з малаком маці, жыў у натуральным вясковым ці мястэчковым асяроддзі, вучыўся ў беларускай школе. Нічога такога ў Іны не было. Бо ўзгадоўвалася ў спрэс дэнацыяналізаваным, на той час суперіндустрыяльным горадзе, які называлі флагманам савецкай нафтахіміі. Там нават пашпартныя беларусы не складалі палову насельніцтва. Але ж "завяліся" беларусы і ў такім дэнацыяналізаваным асяродку. Вярнуўся назад, дахаты, пасля заканчэння гістфака БДУ Уладзімір Арлоў і пайшоў працаваць не па спецыяльнасці, а намеснікам рэдактара ў газету "Хімік", вакол якой і пачало гуртавацца не толькі літаратурнае, але і ўвогуле культурнае, духоўнае жыццё. Алег Мінкін, Вінцэсь Мудроў, Лявон Баршчэўскі, Якуб Лапатка — на сёння вядомыя асобы, якія сказалі сваё слова не толькі ў літаратуры, але і ў палітыцы, у справах грамадскіх. Але па-жаноцку ўпрыгожвае і аздабляе гэтую слаўную кагорту яна, Іна Снарская.

Так ужо павярнулася жыццё, што з названых тут літаратараў ніводзін не атабарыўся ў родным Наваполацку: Арлоў з Баршчэўскім у Мінску, Мінкін з Мудровым, калі не памыляюся, у Вільні, Лапатка ў Фінляндыі. А яе, як яна сама сябе называе, беларускую пералётную птушку лёс закінуў на Украіну, у Палтаву.

Да Іны і ў Палтаве, і ўвогуле на Украіне ставяцца з любоўю і пашанай, пацвярджэннем чаму (прытым яскравым) можа быць факт прысуджэння летась на міжнародным фестывалі тэлефільмаў, які праходзіў ва Ужгарадзе, Іне Снарскай Гран-пры. І хочацца пажадаць, каб на парадпёнай нэньцы-Украіне наша "пералётная птушка" як мага вышэй узлятала на крылах паэтычнага ўяўлення ў высокае паднябессе, каб і адтуль, калі лёс не павернецца інакш, вечным агнём любові свяцілася родная Беларусь. І вось доўгачаканы ліст ад Снарскай. *"Дарагі дружа Яўген! Дзякую табе і тваім калегам за віншаванне з Новым годам. З "Голасу Радзімы" я атрымала самае першае віншаванне. Было дужа прыемна. Успрыняла гэты факт як сімвал, знак, што пра мяне памятаюць на маёй роднай зямлі.*

*Ведаеш, ёсць у мяне адзін істотны недахоп (і не адзін!): я не ўмею пісаць лісты. Даруй. Дарэчы, увесь гэты час, Яўген, я згадвала пра цябе, нават пісала лісты ў думках (неадной-чы!). Кожны твой новы матэрыял у "Голасе Радзімы" напаўняў мяне гордасцю за цябе (бо цікавыя ж матэрыялы!) і сорамам за сябе. Але ведаеш, ёсць яшчэ адзін момант, чаму я не напісала адказ адразу. Ты крыху (крыху?!) здзівіў мяне сваім лістом, цеплынёй і шчырасцю, якімі ён быў перапоўнены. Я адвыкла ад шчырасці (верыш?). Побач даволі часта сустракаеш прыветныя пасмешкі, прыязныя словы, але... Але на самай справе ўсё наадварот. Дзякуй табе за той ліст, за гэты (віншавальны), за газеты, якія ты тады прысылаў, за артыкул пра мяне ў "Голасе Радзімы", за ўсё-ўсё. А галоўнае, за тое, што ты ёсць на свеце, і няхай Гасподзь цябе беражэ.*

*Лячу думкамі ў Мінск, Полацк кожным сваім вершам. Ведаю, што цяжка зараз нашай зямлі, дужа цяжка, але калі было лёгка? Калі? Мабыць, такі ўжо лёс. Няма іншага.. Зімой прыехаць ужо не атрымаецца, а вось вясной (дай, Божа) збяруся. Пішы і не крыўдуй.*

*Жадаю натхнення ў жыцці, творчасці, працы і каханні. "Нехай щастить!" — (укр.).*

*Да пабачэння!*

*Іна Снарская".*

**Вось мы і ступілі на парог стагоддзя і тысячагоддзя і выйшлі ў нязведанае заўтра. Якім яно будзе — найперш залежыць ад волі і ласкі Божай. Пастараемся, наколькі каму ўдасца, жыць па розных святых запаведзях, каб зробленае намі адпавядала высокаму наканаванню. А ў такім разе і наш асабісты лёс, і лёс нашай Бацькаўшчыны залежыць і ад нас саміх, а яшчэ і ад збегу самых розных, а часамі і зусім нечаканых абставін. Пастараемся, дарагія сябры, шаноўныя суродзічы, напоўніць сваё жыццё важкім сэнсам, цікавымі падзеямі і сустрэчамі, радасцю і шчасцем далучэння да высокіх ісцін, усведамленнем нашага агульначалавечага, нашага нацыянальнага яднання. Будзьма жыць з верай у шчаслівую будучыню Беларусі і ўсе сябе таксама.**

**Ад шчырага сэрца жадаю чытачам "Голасу Радзімы" ўсяго самага найлепшага!**

**Ваш Яўген ЛЕЦКА.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### РАСІЯ

Дзякуй за газету. Ад яе вялікая карысць беларусам.

**В. КУНТЫШ.**

Расія. Твер.

### ПОЛЬШЧА

Сардэчна ўдзячная рэдакцыі за атрыманыя віншаванне і слоўнік.

Я скончыла Ашмянскае педвучылішча і універсітэт у Гродне. У Гданьскім універсітэце мне даваліся весці курс беларускай мовы. Я сабрала ўжо шмат кніг па беларускай мове: граматыкі, хрэстаматыі, слоўнікі, розныя дапаможнікі, нават знайшла граматыку старажытнабеларускай мовы. Паказваю на занятках альбомы з беларускімі пейзажамі, нацыянальнымі касцюмамі, ганчарнымі вырабамі, тканінамі. Студэнтаў усё гэта вельмі цікавіць. Вывучаюць беларускую мову дзеці і ўнукі тых, хто прыехаў з Беларусі ў Польшчу ў 1945—1946 і 1956—1959 гадах.

Акрамя беларускага пасольства, я падтрымліваю сувязь з беларускай суполкай у Гданьску і таварыствам "Сябрына" ў Вільнюсе. Ад іх з Літвы атрымліваю газету "Рунь".

Навучанне беларускай мове праводзіцца на працягу двух семестраў, перш за ўсё студэнты павінны разумець і перакладаць тэксты. Некаторыя з іх пішуць дыпломныя работы, якія тычацца параўнання беларускай мовы з польскай ці рускай. Сардэчна ўдзячная за прапанову супрацоўніцтва. Жадаю поспехаў.

**Леакадзія СУХВАЛА.**

г. Гданьск.

## КОНКУРСЫ



# УШАНАВАННЕ АПЯКУНКІ БЕЛАРУСІ

У маі 1999 года касцёл Святога Сымона і Святой Алены ў Мінску абвясціў конкурс "Маці Божая Будслаўская ў маім жыцці і жыцці Бацькаўшчыны" ("Голас Радзімы", №№ 21—22, 1999). Планавалася, што вынікі яго будуць падведзены ўжо ў верасні, але колькасць дасланых прац — 424 работы — з усіх куткоў



Беларусі і Літвы вымусіла арганізатараў падоўжыць тэрмін конкурсу да студзеня 2000 года.

Былі вылучаны тры намінацыі — выяўленчае мастацтва, паэзія і проза. Тэхніка ўсіх трох відаў работ адвольная, у духу каталіцка-хрысціянскіх традыцый. Работы ўдзельнікаў не падпісваліся — на іх ставяў толькі нумар і ўзрост аўтара, а ўсе поўныя звесткі пра яго знаходзіліся ў заклееным канверце.

16 студзеня ў Чырвоным касцёле былі нарэшце абвешчаны імёны пераможцаў: тры чалавекі занялі І месца, дзевяць чалавек — ІІ месца, васемнаццаць чалавек — ІІІ месца і пяць чалавек былі адзначаны заахвочвальнай прэміяй. Усе яны ў якасці ўзнагароды атрымалі вакацыйную паездку ў Польшчу альбо ў Германію, астатнім былі ўручаны памятныя прызы.

Але апякунка Беларусі Маці Божая Будслаўская мае вялікую ласку да ўсіх людзей, таму было вырашана наступнае: практычна ўсе ўдзельнікі конкурсу змогуць адпачыць за мяжой.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы, прысланыя на конкурс; у час агляду конкурсных работ.**

## КАЛЯНДАР-ГАРАСКОП. ПА ЎСХОДНЯМУ КАЛЕНДАРУ 2000 ГОД — ГОД ДРАКОНА І ПАЧЫНАЕЦЦА ЁН 2 ЛЮТАГА

**Два з трох рухаў, у якіх удзельнічае наша планета, яе вярчэнне вакол сваёй восі і вакол Сонца вядомыя практычна кожнаму больш-менш пісьменнаму чалавеку па некалькіх прычынах. Па-першае, таму, што вынікі гэтых рухаў — змена дня і ночы і змена пор года — наглядныя і відавочныя абсалютна для ўсіх людзей. Па-другое, іх хуткія цыклы — штодзённы і штогадовы — прыўносяць у наша жыццё пэўную ўпарадкаванасць, размеранасць і непасрэдна ўплываюць на паводзіны і лад жыцця чалавека.**

**А вось пра трэцяе вярчэнне Зямлі ведаюць, бадай, не ўсе. Размова ідзе пра рух зямной восі па тыпу вярчэння восі цацачнага заваднога ваўчка, якая сваім канцом апісвае пэўную акружнасць. Вынікам гэтага руху з'яўляецца змена эпох. Вось адкуль "бяруцца" эпохі Рыб, Вадалея і гэтак далей. І тут для звычайнага чалавека не існуе ніякай нагляднасці. А змянялънасць эпох, якая адбываецца кожныя дзве тысячы сто шэсцьдзесят гадоў, гаворыць аб тым, што чалавеку з яго працягласцю жыцця, якая ў лепшым выпадку дасягае сотні гадоў, у прынцыпе не дадзена спасцігнуць сэнс гэтага велічнага цыкла.**

### ШТО БЫЛО?

Эпоха Рыб, якая адыходзіць, дазволіла людзям спачатку адчуць, а потым і зразумець, што нам далёка не ўсё зразумела аб саміх сабе і нашым жыцці, не гаворачы ўжо аб такіх глабальных пытаннях, як будова і функцыянаванне Сусвету. Таму "маладому" чалавецтву былі неабходныя вадзіцелі, настаўнікі, выхавальнікі і проста нянькі.



Паралельна з працэсам выхавання эпоха Рыб арыентавала людзей на прызнанне розных аўтарытэтаў.

Эпоха Рыб вучыла чалавецтва служэнню. Гэта магло быць нефармальнае і тайнае служэнне людзям і Богу ў рэлігійным канале, або яўнае, больш зразумелае служэнне свайму роду, нацыі, расе, грамадству, дзяржаве, або ўсяму чалавецтву ў свецкім жыцці.

Людзі, якія навучыліся думаць, пазнаваць і аналізаваць, сфарміравалі іншы, больш самастойны, навукова-даследчы падыход да жыцця. Такі аналітычны падыход нарадзіў інтэлектуальны шлях фарміравання чалавечай асобы.

Гэты шлях больш складаны, бо свая сцежка пракладваецца кожным чалавекам самастойна, без мамак і нянек.

Такі другі шлях — шлях да вяршынь індывідуальнай сілы. Ён дазваляе адчуць сілу незалежнасці, але не дае грамадскага прызнання, бо чалавек служыў самому сабе, раскрываў свой талент, дабіваўся сваёй мэты.

### ШТО ЁСЦЬ?

У канцы эпохі Рыб можна з упэўненасцю канстатаваць наяўнасць большасці людзей, арыентаваных на калектыўны шлях развіцця з усімі адпаведнымі вынікамі. Гэта нармальны і натуральны вынік эпохі, якая адыходзіць, бо ў ім і заключалася яе асноўная задача.

Мы жывём у пераходны, таму цяжкі для людзей час. Прычым цяжка ўсім: і тым, хто сфарміраваў сябе ў калектыўным служэнні, і тым, хто аформіўся індывідуальна.

Праблема першых заключаецца ў тым, што надыходзячая эпоха Вадалея — гэта эпоха Індывідуальнасцей. У яе зможа ўпісацца толькі самастойны і ўстойлівы чалавек, без грамадскай падтрымкі, пры адсутнасці званняў, пасад і крэслаў.

Цяжкасці індывідуалізаваных людзей заключаюцца ў непрыманні грамадствам. Яны яшчэ не заслужылі прызнання, па-першае, таму што не служылі людзям, па-другое, таму што пакуль наогул не прыйшоў час ушаноўваць за індывідуальную сілу. Ён яшчэ наперадзе.

Не існуе аднаго правільнага і другога няправільнага шляху. Ёсць два розныя, але раўназначныя шляхі, аб'яднанне якіх і прывядзе да дасягнення жадаемай рэальнай зямной сілы.

## 2000

| СТУДЗЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аўт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц. | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Пт. | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Нд. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

| ЛЮТЫ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Нд. | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| САКАВІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Пт. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Нд. | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| КРАСАВІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аўт. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Пт. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Нд. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

| МАЙ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 1 | 8 | 15 | 22 | 28 |
| Аўт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 29 |
| Ср. | 3 | 10 | 17 | 24 | 30 |
| Чц. | 4 | 11 | 18 | 25 | 31 |
| Пт. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб. | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Нд. | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| ЧЭРВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Нд. | 4 | 11 | 18 | 25 | |

| ЛІПЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аўт. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Пт. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Нд. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

| ЖНІВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб. | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Нд. | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| ВЕРАСЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Нд. | 3 | 10 | 17 | 24 | |

| КАСТРЫЧНІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт. | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Нд. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| ЛІСТАПАД | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Пт. | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Сб. | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Нд. | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| СНЕЖАНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт. | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср. | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц. | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Нд. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

## «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» — 45!

### ШТО БУДЗЕ?

2000 год унікальны менавіта тым, што дазволіць некаторым людзям зразумець, што ж уяўляе гэта аб'яднаная сіла і якое адчуванне яна дорыць тым, хто яе дасягнуў. Пік гэтага стану адбудзецца 28 мая 2000 года, нядзельным вечарам у 19 гадзін 07 мінут.

Тыя людзі, якія будуць адпавядаць гэтай падзеі, атрымаюць да таго часу аўтарытэт і прызнанне ў грамадстве. Наяўнасць пэўнага матэрыяльнага ўзроўню будзе таксама з'яўляцца найважнейшым паказчыкам рэальнай незалежнасці і сілы.

Асобая значнасць матэрыяльнага дабрабыту — адметная прыкмета апошніх 30 гадоў. Матэрыяльная ўстойлівасць як самамэта ў большай ступені актуальная для людзей, якія нарадзіліся пасля чэрвеня 1968 года, аднак можа мець дастатковую каштоўнасць для любога чалавека, які яшчэ не валодае такім дасягненнем па выніках пражытага жыцця.

У агульным жа выпадку недаразвіццё аднаго з бакоў у чалавеку (індывідуальнага або сацыяльнага) выявіцца пакуль у адсутнасці дастатковай ступені матэрыяльнай незалежнасці.

2000 год — гэта яшчэ і год свабоднага выбару і вялікіх магчымасцей для перабудовы і пераарыентацыі ў жыцці.

Для большасці людзей толькі шлях рашучага адмаўлення ад пустых фантазій і падманлівых надзей і смелага пагружэння ў рэальнае зямное жыццё прывядзе да значных пазітыўных змен у іх лёсе. Пры гэтым безадказныя адносіны да сябе і ўласнага жыцця павінны змяніцца жаданнем пазнаваць сваю прыроду і самастойна будаваць сваё жыццё.

На нашых вачах і з нашым непасрэдным удзелам адбываецца працэс паступовай пераарыентацыі ўсяго сукупнага чалавецтва ад стану "дзіцяці", якому патрэбны нянькі і выхавальнікі, да стану "дарослага" чалавека, адказнага не толькі за сваё жыццё і свае ўчынкі, але і за ўсё чалавецтва.

Поўнае ажыццяўленне гэтага пераходу і будзе з'яўляцца асноўнай задачай надыходзячай эпохі Вадалея.

### КАЛІ ВЕРЫЦЬ ГАРАСКОПУ...

Чалавек, які нарадзіўся ў год Дракона, звычайна валодае моцным здароўем, жыццёвай сілай. Імкненне Дракона да ўдасканалення робіць яго патрабавальным як да сябе, так і да іншых. Ён інтэлігентны, валявы, вынослівы, да яго думкі звычайна прыслухоўваюцца.

Для Дракона 2000 год, натуральна, будзе шчаслівым. А як для іншых?



**ПАЦУК.** Для яго гэты год спрыяльны. Ён займецца добрымі справамі і будзе спакойным.



**КОТ** будзе абыякава назіраць за ўсім, што адбываецца навокал, і займацца сваімі справамі.



**МАЛПА.** Яна забаўляецца. Яе роля будзе галоўнай, бо Малпа заўсёды патрэбна Дракону.



**БЫК.** Заспакоены пышнасцю і бляскам, ён вырашыць, што вярнуліся ранейшыя часы. Але гэта толькі ілюзія. Яму трэба больш працаваць.



**ЗМЯЯ.** У яе, мудрай, усё спакойна, усё добра. Жыццё ўсміхаецца ёй.



**ПЕВЕНЬ** можа ўступаць у шлюб, пакольկі гэты год яму падыходзіць.



**КОНЬ.** Год будзе добрым і для яго. Ён любіць урачыстасці, якія прынясуць яму вялікае задавальненне.



**САБАКА.** Увесь бляск і мітусня года Дракона выклічуць у яго адчай і здадуцца бескарыснымі. Таму яму лепш трымацца ў баку ад усяго гэтага.



**ТЫГР.** Для яго наступны год будзе карысным. У годзе Дракона ёсць бляск, а Тыгр любіць гэта.



**КАЗА** будзе адчуваць сябе добра. Пакрысе яна выкарыстае ўвесь бляск гэтага года.



**СВІННЯ,** упэўненая ў тым, што можна жыць больш проста і сціпла, знойдзе прыстанак у сваіх дзяцей. У яе будзе добрая ежа, і яна нават патаўсцее.

**Матэрыял падрыхтавала астролаг Вольга ІБРАГІМАВА.**

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 312.
Падпісана да друку 31.1.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).